

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 12 (13544)

16 — 22 сакавіка 1992 года

Цана 1 рубель 50 кап. (па падпісцы — 35 кап.)

*У нумары:*



# 22 сакавіка — Сусветны дзень інвалідаў



На здымку: інвалід-афганец з Мінска Мікалай Капарыха.

**ПАВАЖАНЫЯ СПАДАРЫ!**

**БРАТКІ-БЕЛАРУСЫ!**

Інваліды-афганцы, не жадаючы быць утрыманцамі дзяржавы, хочуць самі зарабляць сродкі для існавання.

Мінская асацыяцыя інвалідаў вайны ў Афганістане звяртаецца да вас з просьбай аказаць пасільную фінансавую дапамогу ў стварэнні ўласнай вытворчай базы.

Наш разліковы рахунак *700712 у камерцыйным банку "Мінскбізнесбанк", код 739.*

Адрас:

*220036, г.Мінск,*

*пр. Дзяржынскага,*

*10, п.302.*

Тэл. *20-88-32.*

Фотарэпартаж нашага карэспандэнта С.Брушко "Боль афганскай вайны" чытайце на 3-й старонцы.

# Боль афганскай вайны









Два-тры гады назад гэтыя хлопцы, якія ваявалі ў Афганістане, былі ў цэнтры ўвагі — пра іх пісалі кнігі, выдаваліся законы ў іх падтрымку, праводзіліся мітынгі. Цяпер пра іх успамінаюць усё радзей, ніяк не могуць знайсці грошы на ўзвядзенне помніка загінуўшым. А ахвяры гэтай жорсткай, нікому не патрэбнай авантуры жывуць сярод нас і патрабуюць у гэты цяжкі час як ніколі ўвагі.

Мікалай Капарыха вярнуўся з Афганістана ў лістападзе 1984 года і, здавалася, што нічога не прадракала бяды. Працаваў на трактарным заводзе, ажаніўся. Няшчасце прыйшло ў дом праз два гады: болем напомнілі Мікалаю аб Афганістане абмарожаныя і параненыя ногі. Пачалося блуканне па бальніцах і шпіталях. Урачы не змаглі выратаваць адну нагу, нядаўна ампутавалі другую, дрэнна з рукамі. Малады хлопец у росквіце сіл стаў бездапаможным чалавекам, інвалідам першай групы.

Дзякуй Богу, што ў яго ёсць добрая жонка і надзейныя сябры, якія не пакінулі яго сам-насам са сваёй бядой. Чым могуць дапамагаюць шэфы з трактарнага завода, а жонцы Наталлі патрэбна пакланіцца ў ногі, на такіх людзях трымаецца свет. Гэта маладая жанчына захавала цяпло ў сям'і, узяла на сябе ўсе нялёгкія клопаты аб мужу, даглядае яго, як дзіця. А пражыць на яе невялікую зарплату і пенсію Мікалая становіцца ўсё цяжэй і цяжэй.

Мікалаю патрэбна лячэнне, патрэбны добрыя пратэзы, неабходна матэрыяльная дапамога. На якім узроўні ўсё гэта робіцца ў нас, чытачы ведаюць. Надзея паехаць у Германію на аперацыю маленькая, ды і дапамогу прыходзіцца чакаць ад добрых людзей, а не з боку дзяржавы, ёй усё гэта, здаецца, да лямпачкі.

Выратаванне тых, хто тоне, справа саміх тапельцаў. 209 інвалідаў Афганістана ў Мінску аб'ядналіся ў асацыяцыю, каб самім вырашаць свае праблемы. У цяперашні час яны жывуць і працуюць, спадзеючыся на дапамогу мецэнатаў, не маючы ні памяшканняў, ні грошай, чуючы толькі адмовы ад гарадскіх улад.

Іх не так многа, інвалідаў Афганістана, маладых людзей, якіх туды паслала дзяржава, а цяпер, калі яны сталі непатрэбны, кідае на волю лёсу.

У Вашынгтоне стаіць вялікая стэла з імёнамі ўсіх амерыканцаў, што загінулі ў В'етнаме. Нам жа дачакацца б ад дзяржавы элементарнай увагі да інвалідаў-афганцаў, якія яшчэ жывуць.

**Фота С.Брушко.**



# ЯК СТАЦЬ ГАСПАДАРОМ?

Кажуць, гісторыя рухаецца па спіралі. І часта тое, што здавалася добра забытым мінулым, вяртаецца зноўку, становіцца модным і папулярным. Датычыцца гэта не толькі адзення. Часцяком такія вось метамарфозы здараюцца і ў сацыяльна-эканамічным, палітычным жыцці грамадства. Вось і сёння, як казачная птушка Фенікс, адрадзіліся лозунгі, якімі ў 1917 годзе бальшавікі прыцягнулі да сябе народную ўвагу. Памятаеце: "Заводы — рабочым", "Зямля — сялянам" і г.д. Ну і што тут дрэннага, скажа, напэўна, палкі прыхільнік справядлівасці. А тое, што акурат у гэтых лозунгах справядлівасці і няма.

Сёння паўстаўшая праблема — як падзяліць дзяржаўную маёмасць справядліва — здаецца нам невырашальнай. Прапаноў і розных праектаў шмат, але ў кожным з іх ёсць нейкія недапрацоўкі і хібы. Тое ж самае і з папулярнымі, самымі простымі лозунгамі, прыведзенымі вышэй. Заводы аддаць рабочым, а зямлю — сялянам, безумоўна, можна. А што атрымаюць студэнты, пенсіянеры, супрацоўнікі культуры і медыцыны? Дзе ж тая справядлівасць у адносінах да іх?

Замкнёнае кола? Невырашальная дылема? Але ўсё можна вырашыць, з усяго знайсці выйсце, калі добра падумаць. І вось гэтую цяжкасць (падумаць) узяў на сябе кандыдат эканамічных навук Уладзімір Ніканчык.

Яго "Прапановы па працэдуры раздзяржаўлівання прадпрыемстваў як адзіначасовага акта і перадачы іх ва ўласнасць саміх супрацоўнікаў на аснове крэдытнага метаду" падзелены на дзве часткі: першая — працэдура раздзяржаўлівання, другая — прыватызацыя. Вось тыя пункты, якія датычаць менавіта раздзяржаўлівання. 1. Складаецца поўны спіс аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, якія належаць раздзяржаўліванню. 2. Праводзіцца інвентарызацыя і вызначаецца кошт маёмасці ўсіх аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, улічваючы кошт тэхналогіі, ўзровень арганізацыі вытворчасці, прыбытковасць. 3. Вызначаецца поўны спіс асоб, якія ўступаюць у валоданне раздзяржаўленай маёмасцю. 4. Вызначаецца і абвяшчаецца грашовы эквівалент (пай) уласнасці ў пераліку на аднаго суб'екта раздзяржаўлівання.

– Ну, атрымалі мы сваю частку дзяржаўнай маёмасці. А што далей. Што будуць рабіць з ёю людзі, не здатныя да прадпрымальніцтва?– пытаюся ў аўтара праекта Уладзіміра Ніканчыка.

— У рэспубліцы будзе створаны адзіны інвестыцыйны фонд. На кожнага суб'екта ў гэтым фондзе і яго філіялах адкрыецца прыватызацыйны рахунак. І тут ужо мы падыходзім да другой часткі маёй прапановы: прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Супрацоўнікі раздзяржаўленых прадпрыемстваў, якія жадаюць удзельнічаць у выкупе свайго прадпрыемства, атрымліваюць з АІФ боны, якія засведчваюць іх пай у дзяржаўнай маёмасці. Выкарыстоўваючы гэтыя грошы, калектыў прадпрыемства выкуплівае яго ў дзяржавы. Калі гэтых грошай не хапае, па рашэнню калектыву прадпрыемства ў выкупе ўдзельнічаюць члены сямей супрацоўнікаў, супрацоўнікі прадпрыемства, якія выйшлі на пенсію. Але і гэтых грошай можа не хапіць, дзеля таго, каб наладзіць работу прадпрыемства, правесці рэканструкцыю, закупіць новыя тэхналогіі і абсталяванне. Каб у працэс прыватызацыі канкрэтнага прадпрыемства не былі ўведзены лішнія людзі, проста знаёмыя альбо "блатныя", каб не былі абдзелены і атрымалі сваю долю прыбыткаў усе суб'екты раздзяржаўлівання (студэнты, супрацоўнікі культуры і медыцыны), іх пай выкарыстоўваецца як крэдытны рахунак для інвесціравання.

– Але і супрацоўнікі адзінага інвестыцыйнага фонду могуць, напрыклад, у больш прыбытковыя прадпрыемствы ўкладваць паі сваіх блізкіх і знаёмых. Як усё ж абараніць звычайнага суб'екта раздзяржаўлівання і забяспечыць яго адпаведнай доляй прыбытку?

— Рабіць такога супрацоўнікі АІФ не змогуць таму, што ўсе паі не будуць мець канкрэтнага гаспадара. Фонд будзе дзейнічаць як звычайны банк: вы пераводзіце на яго рахунак сваю частку ўласнасці раздзяржаўленай маёмасці, ён абяцае вам штогод пэўны працэнт і гэта ўжо яго цяжкасці, як і куды фонд будзе ўкладваць вашы грошы. Так пступова боны, якія ў прынцыпе нічога сабой не ўяўляюць, перарастуць у паўнаважкія акцыі прадпрыемстваў, з якіх людзі штогод будуць атрымліваць прыбытак (у тым выпадку, калі яны самі ўкладвалі ў канкрэтнае прадпрыемства свой пай), альбо ў напоўнены грашовым эквівалентам разліковы рахунак у банку, якім стане інвестыцыйны фонд.

– Як Вы лічыце, Уладзімір Уладзіміравіч, чаму з такімі цяжкасцямі ў нас праходзіць працэс прыватызацыі на сённяшні дзень?

— Справа ў тым, што дзяржаўным структурам не патрэбна аднаактнае раздзяржаўліванне маёмасці. Па праўдзе сказаць, ім увогуле не патрэбна ні прыватызацыя, ні раздзяржаўліванне маёмасці. Але калі ўжо гэты працэс пайшоў, калі яго ўжо немагчыма спыніць, то бюракраты жадаюць расцягнуць яго.

– Напэўна, менавіта таму Вы нідзе не можаце "ўладкаваць" свае "прапановы", ні з кім не знаходзіце паразумення?

— Хутчэй за ўсё так. Куды б я ні звяртаўся — нідзе мае ідэі не патрэбныя. Адзіная надзея на апазіцыю.

*Апазіцыя збірае подпісы, неабходныя для правядзення рэферэндуму. І людзі падпісваюцца, таму што ўжо не вераць ні ўраду, ні кіраўніцтву. Хуткіх змен, на якія ўсе так спадзяваліся, не адбылося. А тут яшчэ затрымліваюцца законы аб прыватызацыі. Людзі жадаюць мець уласнае жыллё, зямлю, акцыі прадпрыемстваў, а набыць іх амаль немагчыма. Калі ж урад і надалей не будзе звяртаць увагі на слушныя прапановы, лёс яго, на маю думку, будзе сумны. А прапановы эканаміста Уладзіміра Ніканчыка і сапраўды слушныя.*

**Зміцер Лукашук.**
**Фота С.Брушко.**



*** "Што будзем прыватызаваць, шаноўны спадар?".**

# СА СВЕТУ ПА НІТАЧЦЫ

## (ГОЛАМУ, ЯК ВЯДОМА, — КАШУЛЯ)

**Чарговую сенсацыю зрабіла аднойчы рэспубліканскае радыё, паведаміўшы аб тым, што ў Мінскім акруговым універсальным магазіне ідзе бойкі гандаль таварамі з-за мяжы. Рэфрэнам прагучалі выступленні многіх мясцовых газет, дзе з'явілася ашаламляльная версія – распрадаюць гуманітарную дапамогу!.. Абурэнню сталічных жыхароў не было мяжы. Як жа так? Чаму такімі непрыстойнымі справамі заняліся работнікі паважанага ў горадзе магазіна ваенгандлю?**

**Падобныя чуткі, шчыра кажучы, пакінулі даволі непрыемны асадак у людзей, якія носяць ваенную форму. Няўжо такое і сапраўды магчыма? І вось мы ў натоўпе ля прылаўка.**

У абутковым аддзеле ляжалі паношаныя, старыя жаночыя боты вырабу 80-х гадоў, красоўкі, дзіцячыя туфлі, басаножкі. Першае пачуццё — грэблівасць, другое — абурэнне. Скажам прама: тавар з-за "бугра" не выклікаў асаблівага ўражання. Затое ў аддзеле суседнім было шмат верхняга трыкатажу, жаночыя кофтачкі і футболкі, прадаваліся ўсяго за 10-50 рублёў, швэдары і джэмперы аценьваліся ў 100-200 "драўляных". У аддзеле мужчынскага адзення сіратліва віселі вылінялыя штаны незразумелага колеру і зацёртыя джынсы з ЗША. Цэны былі прыкладна такія ж — ад 100 да 250. ...Людзі незадаволена бурчалі, але тавар куплялі. Добра, хоць прадаўцы не патрабавалі ў пакупнікоў купонаў, а па цяперашнім часе гэта "вялікае" дасягненне ў гандлі!

Першыя дні камісійнага продажу імпартных тавараў былі вельмі цяжкімі для работнікаў універмага і асабліва для дырэктара — С.Д.Фацеева. Яго рабочы кабінет літаральна даймалі натоўпы абураных пакупнікоў. Абвінавачвалі ў тым, што ён не мае права прадаваць рэчы, якія паступілі ў рэспубліку па лініі гуманітарнай дапамогі, што гэта яўны "беспредел" і г.д. і да т.п. Потым у магазін нахлынулі журналісты, работнікі гандальінспекцыі і АБКС...

У чым жа справа? Што адбылося рэальна?

— Гэту партыю тавару нам паставіла амерыканская фірма "Еўра Энтэрпрайз Лімітэд",— прадставіла для азнаямлення неабходныя дакументы начальнік гандлёвага аддзела З.Сабалеўская. У тым ліку і кантракт, падпісаны віцэ-прэзідэнтам фірмы М.Новікавым і дырэктарам універмага. — Так, усе рэчы сапраўды паношаныя, але мы і не ўтойвалі гэтага. Рэалізацыя ідзе па ўмераных камісійных цэнах, якія вызначылі вопытныя таваразнаўцы з улікам ступені зносу і вонкавага выгляду. Усе 186 пакункаў, што прыйшлі да нас з Брукліна, пабывалі ў хімчыстцы. Радыяцыі няма, шкодных рэчываў таксама, на што ёсць даведка з санэпідстанцыі.

— Але навошта было заключаць кантракт на рэалізацыю паношаных рэчаў, хай нават і замежных, такому паважанаму ведамству, як ваенгандаль?

— Згодна, што не ўсім спадабалася наша ініцыятыва,— працягвала свой невясёлы расказ Зоя Аляксандраўна Сабалеўская.— А што нам яшчэ заставалася рабіць: гандляваць практычна няма чым...

Універмаг даўно выбраў усе фонды. На гандлёва-закупачных базах пуста... Практычна няма і паступленняў ваеннага асартыменту. Калі раней, пры адзінай дзяржаве, шапкі-вушанкі, форменныя чаравікі і шалікі пастаўляла Украіна, то цяпер "самасційныя" суседзі, здаецца, зусім забыліся на свае абавязкі. Да таго ж упраўленне гандлю акругі ў мінулым годзе не дадало магазіну 500 халадзільнікаў, 300 тэлевізараў.

Як загадаеце жыць калектыву далей? Каб утрымацца, прыйшлося б звольніць палову супрацоўнікаў, а ў іх — сем'і, дзеці... Паспрабавалі звязацца з кірмашамі і самім дамовіцца аб магчымых пастаўках. Накіравалі, напрыклад, у Маскву на гандлёвы кірмаш З.Сабалеўскую. Дык з яе на швейнай фабрыцы ўзамен гарсэтных вырабаў запатрабавалі... цэмент. І гэта ў магазіне ваенгандлю?

Таму падпісанне кантракту па пастаўках ношаных рэчаў можна лічыць крокам вымушаным і цалкам абгрунтаваным. І вінаваціць яго дырэктара няма за што. С.Фацееў — чалавек ініцыятыўны, дзейны. Дзякуючы яго настойлівасці універмагу дазволілі знешнеэканамічную дзейнасць. Цяпер калектыў выйшаў на ўпраўленне гандлю з прапановай перайсці на арэндны падрад з наступным выкупам, пры гэтым не зніжаючы забеспячэнне ваеннаслужачых.

А калі гарадскія ўлады, упраўленне гандлю абедзвюма рукамі за падобныя крокі, то жалезабетонны заслон на шляху паставілі прадстаўнікі КЭУ акругі, якую ўзначальвае палкоўнік Пупко. Яны адразу выставілі "жалезныя" довады: маўляў, ёсць забараняючае падобную дзейнасць пісьмо з Галоўнага ўпраўлення гандлю МА СССР. Між тым, у названым дакуменце зразумела сказана, што забаронена перадача ў арэнду толькі пабочным (!) арганізацыям і кааператывам гандлёвых памяшканняў і будынкаў. Але ў КЭУ акругі так трактуюць дакумент, як ім выгадна.

— Магазін знаходзіцца на першым паверсе дома, дзе хутка будзе рабіцца капітальны рамонт,— так растлумачваў прычыну адмовы начальнік КЭУ акругі палкоўнік Пупко.— Плюс пракладзеныя ў падвале розныя камунікацыі, хто іх будзе тады абслугоўваць? Самі работнікі магазіна не справяцца.

— Гэта проста адгаворкі,— абурыўся С.Фацееў, даведаўшыся пра змест нашай размовы.— Калі на тое пайшло, то ў нас у штаце ёсць і электрык, і сантэхнік. Тут зусім іншая прычына — у каманда-адміністрацыйных падыходах кіраўнікоў КЭУ. Самі жывуць учарашнім днём і іншых прымушаюць таптацца на месцы.

Вось нас абвінавацілі ў нажыве, у распрадажы гуманітарнай дапамогі,— прадаўжае размову Сяргей Дзмітрыевіч.— Але цэны былі ўстаноўлены па двухбаковаму пагадненню. Трынаццаць працэнтаў выручкі ідзе нам, а вось нерэалізаваны тавар фірма ўцэніць альбо забярэ назад — такія ўмовы кантракту. Палову прыбытку калектыў вырашыў пералічыць на рахунак пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы, некалькі тысяч аддадзім на стварэнне Беларускага ліцэя. Дарэчы, ва ўсіх камісійных магазінах прадаюць патрыманыя рэчы, але ніхто не абураецца...

Правільна гавораць, што капіталіст на Захадзе ўмее гандляваць і нічога не робіць марна. Памалу вучымся гэтаму майстэрству і мы. І магчыма, не было б абурэнняў сярод пакупнікоў, калі б работнікі універмага своечасова зрабілі рэкламную аб'яву, растлумачылі людзям, што рэчы не з гуманітарнай дапамогі, што заключана прыстойная здзелка з іншаземнай фірмай.

**Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.**

### Ад аўтара.

Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, я зноў звязаўся з універмагам. З.Сабалеўская сказала, што тавару з Брукліна за месяц прададзена на паўмільёна рублёў, а магазін змог перавыканаць гадавы план па тавараабароту (!). І гэта ў такіх складаных умовах наступаючага рынку. Калектыў ад сваіх планаў адмаўляцца не збіраецца. А скандальная рэклама ў мясцовай прэсе нават саслужыла ім добрую службу – паступіла шмат цікавых прапаноў.



# ПАЭТ БУДАЎНІК ПРАДПРЫМАЛЬНІК

*Завітаў да нас у рэдакцыю чалавек. Павітаўся, і адразу ж спытаў: "Можа, вам чымсьці дапамагчы?" Потым высветлілася, што наш госць не толькі ўмее будаваць дамы, але і пісаць вершы... Сапраўды, вельмі рэдка сустрэнеш чалавека з натруджанымі, пакрытымі мазалямі сялянскімі рукамі, якія больш яскрава, чым усе словы свету гавораць аб іх уладальніку, прычым уладальнік такіх рук чытае напамяць цытаты з класікаў, прыгадвае дзесяткі сусветна вядомых імёнаў... І гэтыя ж рукі, якія, бачна па ўсяму, прывычныя да цэглы, да будаўнічага каменю, трымаюць пяро, з-пад якога выходзяць цудоўныя, шчырыя вершы. Не адразу ўдалося "разгаварыць" яго, пажылога, спакойнага чалавека, чалавека мінуўшчыны, але і ў той жа час жыхара будучыні. Знаёмцеся: Уладзімір Канстанцінавіч ШУПЛЯК.*

**– Уладзімір Канстанцінавіч, як жа атрымалася, што Вы ў сваёй асобе злучылі такія разнастайныя рэчы – паэзію, будаўніцтва ды ў дадатак яшчэ і прадпрымальніцтва?**

— Ведаеш, я не магу нават адказаць на гэта. Часам я сам сабе здзіўляюся. Ці гэта ад Бога, ці сам сябе выхаваў. Мая маці — полька, бацька — беларус. Сям'я была вельмі набожнай. Маліліся Богу, душу ачышчалі. Нас было чацвёра ў сям'і. І з самага ранняга дзяцінства прывучалі нас бацькі да працы. Маліну збіралі, кару абдзіралі, здавалі гэта ўсё, каб нейкая капейчына была. Да працы тады прывучыўся. Паэзія ж потым прыйшла. Спачатку парусху пісаў — сам разумееш, да сялян усяго бліжэй Ясенін...

**– А як Вы прыйшлі менавіта да спалучэння працы і паэзіі? Бо часцей, калі чалавек адчувае ў сабе здольнасці да літаратуры, ён менавіта па гэтай сцежцы і ідзе. А Вы не толькі пішаце, а яшчэ і дамы будуеце.**

— Я ўсё жыццё будую. У жыцці такая пара надыходзіць, калі наскрозь бачыш, як у нас да працы ставяцца — толькі каб хутчэй, абы з рук. А я некалькі гадоў у Літве працаваў. Мову літоўскую добра ведаю, спадабаліся мне літоўцы. Навучылі яны мяне працаваць якасна. У нас жа — пaглядзіце на гэтыя хаткі вясковыя! Гэта ж усё рушыць трэба ды перабудоўваць нанава, каб нашчадкам пакінуць не чатыры сцяны ды дах, каб прыгажосць пакінуць. Будую. І так будую, каб потым ніхто пра мяне дрэннага слова не сказаў, толькі добрае хачу пакінуць. Ёсць бар'ер, бар'ер свядомасці, бар'ер ведаў, бар'ер сумлення, і калі гэты бар'ер пяройдзеш — пачынаеш разумець, што вечнасць ва ўсім — не толькі ў вершах, але і ў той арачцы, і ў тым каміне, абы толькі камень у іх класці з любоўю. Навучыўся цэглай па сценах маляваць, узор укладваць. Паглядзіш — неяк лягчэй робіцца, калі ня голая сцяна, калі ў яе нешта і ад душы ўкладзена...

Я ж у вёсцы нарадзіўся, працаваў там усё жыццё. Там прахожага сустрэнеш, спытае ён — як туды ці туды прайсці, дык ты яго запросіш, перанапаўчаваць пакінеш... Цяпер — не, цяпер баяцца, дабрыні, сардэчнасці такой няма ўжо. Ведаеш, дзе вытокі такой недарэчнасці? Возьмем майго брата. Ён тут жыве, у Мінску, і дзяцей сваіх да працы не прывучае. А я ж за тое сваёй маці ўдзячны, што з самага маленства, з самых першых гадоў яна мне святасць працы адкрыла. Мяне кінь голага-босага ў лесе дзе-небудзь — я ж не загіну, знайду сабе і працу, і ўсё астатняе, што для жыцця трэба. Гультайства, бязладдзе людзей калечыць. Калі я ў Літве быў, са старой пазнаёміўся — гадоў за 80 ёй. Паглядзеў бы ты, як яна працуе! Гаспадарка ў яе, цяляты. Пытаюся, навошта табе гэтае ўсё? Ты ж за сваё жыццё на старасць зарабіла... Адказвае: "А калі я рукі апушчу, слабой стану — і памру хутчэй".

**– Уладзімір Канстанцінавіч, але ж паэзія – гэта таксама праца нялёгкая. Я Вашы вершы прачытаў – шчырасць у іх, не рамесніцтва, не абы напісаць – аддаць, патрэбна Вам гэтае.**

— Ведаеш, за што мне "Чырвоная змена" падабаецца? Бачу, што вы ад душы працуеце, не збіраеце абы-што. Чытаю вашы матэрыялы — душа ачышчаецца. Вось так і вершы мае. Іншым лепш бачна, але ты не думай, што я такі ўжо прастачок.. Я за сваё жыццё столькі прачытаў... (...і калі толькі ў Вас, Уладзімір Канстанцінавіч, часу на гэта хапіла? Бо нават і я, са сваёй універсітэцкай адукацыяй, столькі не чытаў, колькі Вы. У 15 гадоў прачытаць поўны збор твораў Бальзака... і прычым усё жыццё памятаць прачытанае...). Памятаеш, як гаварылі пра паэтаў — яны чыстую душу са змроку выцягваюць... Бродскаму калісьці суддзя пытанне задаў: "хто, маўляў, вам даў права называцца паэтам?". Я яму гэтае права даў! Ён маю душу крануў, а больш і не трэба нічога. Пішаш — душу рвеш на кавалкі. Гэта самаахвяраванне, я можа нічога новага не скажу, я адчуваю гэта! Гарэць трэба. Але гарэць так, каб душу не спаліць, не прапіць, не прайграць у карты. Лепш яе аддаць людзям... Мяне жыццё зводзіла з баптыстамі. Я вось кажу аднаму: "Чаму вы, хлопцы, гарэлкі не п'яце?". А ён мне на гэтае: "Ведаеш, мне і так прыемна, у мяне і так душа чыстая. Дрэнна мне — калі ад веры адыходжу. Тады малюся, малюся, малюся, а як адмалю, адмыю перад Богам грэх свой — і лепш становіцца... Дык якое ж жыццё без веры? Тамленне душы...". На ўсё жыццё мне гэтыя словы — як арэчаўленая духоўнасць, прага да веры.

**– А каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі?**

— Я самавучка. Пра Ясеніна казаў ужо, але быў такі паэт, Якаў Палонскі, і ведаеце, за што білі яго крытыкі — Бялінскі ды іншыя? За адсутнасць грамадскага пратэсту! Ён быў лірыкам, і толькі. Я ж таксама ў палітыку не лезу, але ў 80-м годзе панёс у рэдакцыю (не буду гаварыць, якую) вершы, а там супрацоўніца мне і гаворыць: "Не адпавядае ваша паэзія сацыялістычным патрабаванням...". Я і да таго часу, ды і пазней у многіх газетах друкаваўся... Але на 7 гадоў тыя словы ўсю ахвоту пісаць у мяне адбілі. Што ж зробіш, калі "не адпавядае"... Чым мне дэмакратыя падабаецца — тым, што можна пісаць што бачыш, што адчуваеш. Яшчэ Шандара Пэцёфі вельмі люблю. Але — усё ж такі пераклад, вось каб у арыгінале чытаць... Я разумею — раней эпоха дыктавала. Цяпер жа аднаўленне душы ідзе. Мне ў жыцці і прахіндзеі трапляліся — не толькі чыстыя людзі... Цяжка, калі шмат ведаеш... Я ў сябе ўсё ўмясціў. І мовы — ведаю літоўскую, польскую, неяк хутка схопліваю штосьці новае. Наогул, сялянская праца прывучае да дакладнасці, менавіта да творчай дакладнасці. А ідэал для мяне — Адам Міцкевіч. Гэта з дзяцінства. Гэта проста музыка, гэты чалавек валодае мовай так, што можа найбольш дакладна перадаць пачуццё, выказаць думку ў слове... Так, мова — гэта таксама музыка. А як не любіць, скажам, Максіма Багдановіча? Ягоная душа, ягоныя вершы — "краіна светлая". Магу ўзгадаць і Мележа, і Караткевіча, і Адамовіча. Але Міцкевіч — гэта маё, кроўнае. Я і прадпрыемства сваё назваў ягоным словам — "Свіцязянка".

**– Сапраўды, Уладзімір Канстанцінавіч, Вы ж яшчэ і бізнесмен...**

— Хутчэй, прадпрымальнік. Казаў ужо, што вучыўся будаваць у літоўцаў. Будаваць так, каб нешта пасля мяне засталося, хай не навечна, але надоўга. Мы будзем будаваць сялянскія дамы, катэджы. Але ні ў якім разе я не магу сказаць, што грошы для мяне галоўнае. Не для нажывы стварыў я гэтае прадпрыемства. Я чалавек адзінокі, пасля мяне толькі імя застанецца. Імя — і яшчэ тое, што пабудую. А грошы, якія зараблю, — на дабрачыннасць. Кажуць мне: навошта табе той катэдж? Можа ты яго і дабудаваць не паспееш... Кажу на гэтае: "я не паспею — іншыя дабудуюць, ды яшчэ падзякуюць, што добры падмурак заклаў...". Ведаеш, што мне падабаецца — раней магнаты розныя дзетак сваіх сялянам на выхаванне аддавалі. Каб здаравейшымі сталі, каб зямлю адчулі, чалавека... Мае дамы ад усіх адрозніваюцца, а колькі я іх за апошнія восем гадоў, як па дагаворах працую, збудаваў — палова вуліцы будзе. Ты вось пытаешся, ці хацеў бы я пражыць жыццё па-новаму? Не хацеў бы. Цікава было. Ды яшчэ і будзе.

* * *

**Што можа сказаць пра чалавека лепш, чым верш, напісаны яго рукой, яго сэрцам? Зараз вы прачытаеце адзін з твораў Уладзіміра Канстанцінавіча Шупляка. Відаць, ён скажа больш, чым усё гэтае інтэрв'ю.**

*Гойдаў вецер вішнёвыя дрэўкі,*
*Сыпаў снегам на дол кветкапад,*
*Небасхіл калыхаўся ад спеўкі —*
*Салавей хваляваў далягляд.*

*Гогаль з долу нацэліўся ў сонца,*
*Пала зорачка ў золак расой.*
*Туман лёгка паплыў у бясконцасць,*
*Без пары хтось зацвіркаў касой.*

*Я тайком да матулі вяртаўся*
*Па халоднай і мокрай мяжы:*
*Йшлі насустрач, ніхто не вітаўся,*
*Бо жыццё без радзімы пражыў.*

*У хаце злягу да сіняга вечара,*
*У ласках матчыных боль затаю,*
*Усім спадманам і крыўдам навечна*
*Стаўлю крыж у радзімым краю.*

*Можа зноў, хоць у сне, усхваляваная,*
*Прыйдзе моўчкі да бэзу Яна.*
*У юнацтве згубіўшы каханую,*
*Змарнаваў я жыццё дазвання.*

# ХТО НАКОРМІЦЬ НЕМАЎЛЯ?









**Самае балючае, калі з-за глупства дарослых пакутуюць дзеці. Так прывычна: "дзецям – усё лепшае". А што лепшае? Што можа даць маладому пакаленню гэтая "мэтанакіраваная" краіна, калі нават немаўлятам не хапае харчавання? Маладыя маці, не маючы чым накарміць сваіх атожылкаў, лаюцца з прадаўцамі, звяртаюцца да сваіх дэпутатаў, пішуць лісты ў рэдакцыі газет. Але зруху ніякага як не было, так і па сённяшні дзень няма.**

Клецкі завод дзіцячага харчавання не спыніў сваю працу і па-ранейшаму адгружае прадукцыю ў крамы рэспублікі. Фасоўшчыцы не маюць і хвіліны, каб патачыць лясы, абмяняцца навінамі — беспарапынна бягуць па канвееры слоічкі з сокамі альбо пюрэ.

— У чым жа справа, чаму дзіцячага харчавання ў продажы няма?— пытаюся ў дырэктара Клецкага камбіната дзіцячага харчавання Леаніда Сямёнавіча Альховіка.

— Нягледзячы на тое, што наш камбінат з'яўляецца адзіным у рэспубліцы буйным вытворцам дзіцячага харчавання і ён павінен забяспечваць усіх беларускіх дзяцей, мы толькі на 9 працэнтаў забяспечваем патрабаванні беларускага рынку. Нашы магутнасці разлічаны на выпуск 10 мільёнаў умоўных слоікаў у год. Але, як бачна, гэтага не хапае, акрамя таго, нам даводзіцца працаваць на састарэлым абсталяванні, у памяшканнях, якім даўно патрэбны і рэканструкцыя, і рамонт. 5 год таму Саўмін, у мэтах павелічэння выпуску прадукцыі, вырашыў правесці рэканструкцыю завода. Чакалі мы чакалі і нарэшце вырашылі самі ўзяцца за гэтую справу. Звязаліся з замежнымі фірмамі, разглядзелі іх праекты і прапановы па рэканструкцыі і пашырэнню асартыменту, з'ездзілі ў Італію і, урэшце, выбралі сабе кампаньёна. З арыгінальнай тэхналогіяй і цікавымі прапановамі. Усё, здавалася, будзе добра. Але ўмяшалася Беларускае ўпраўленне па гандлю садавінай і агароднінай і, у прыватнасці, кіраўнік гэтай фірмы спадар Рыбак з патрабаваннем заключыць кантракт з іншай фірмай. Але ў іх недадуманы праект, не прадугледжана пытанне з тарай. Як мы ні змагаліся, але адзіны поспех — кантракт заключаны папалам і з той, і з другой фірмамі. Вось вам і новыя ўмовы гаспадарання.

— Вы лічыце, што гатовы выходзіць на сусветны рынак са сваёю прадукцыяй?

— Безумоўна, перш за ўсё мы павінны забяспечыць дзяцей Беларусі. Але, па-першае, рэканструкцыя для таго і праводзіцца, каб павялічыць аб'ём выпускаемай прадукцыі. Падругое, камбінаты па перапрацоўцы садавіны і агародніны невялікіх магутнасцей павінны быць у кожным раёне. Каб не траціць грошы і час на далёкія перавозкі і захаваць каштоўную сыравіну, што збіраюць па ўсёй Беларусі, бо наш камбінат збірае садавіну і агародніну толькі з двух-трох бліжэйшых раёнаў.

А па вялікаму рахунку мы гатовы пастаўляць прадукцыю на сусветны рынак хоць сёння. Па смакавых якасцях і каларыйнасці наша прадукцыя вышэй, чымся многія замежныя эквіваленты. Дайце толькі адпаведную ўпакоўку!

— А па ўтрыманню шкодных рэчываў ніякіх прэтэнзій няма?

— 100-працэнтная гарантыя чысціні ад радыяцыі і нітратаў.

— Праблема з рэканструкцыяй — вялікая, глабальная праблема. А што Вам перашкаджае працаваць, збівае з рытму сёння?

— Галоўнае — гэта, безумоўна, адсутнасць тары і накрывак. Нам няма куды расфасоўваць гатовую прадукцыю. І калі са слоікамі мы някняк знаходзім выйсце, іншая справа — накрыўкі. Іх у нас на Беларусі не вырабляюць. Даводзіцца купляць у Рэспубліцы Малдова. А там вытворцы не толькі беспадстаўна і беспарапынна ўзнімаюць цэны, але і патрабуюць яшчэ бартэрнага абмену. А дзе мы возьмем халадзільнікі і тэлевізары? Вось і даводзіцца круціцца. Шукаць нешта тут, везці ў Малдову, каб вярнуцца з накрыўкамі.

— Ці шмат у вас ручной працы?

— Пакуль яшчэ хапае — 35 працэнтаў. Толькі што рабіць: пакуль не правядзём рэканструкцыю — нічога не зменіцца.

Перада мною ляжыць ліст ад маладой маці. У ім — боль і слёзы абуранай жанчыны, якой няма чым карміць сваё дзіця. Але чым ёй можна дапамагчы? Так, эканамічны спад і крызіс паўсюль. Але ж ці павінны пакутаваць дзеці з-за палітычных і эканамічных пралікаў дарослых?

Клецкаму заводу дзіцячага харчавання неабходна тэрміновая рэканструкцыя. Але і ў гэтым ім перашкаджаюць. Толькі калі так пойдуць справы і надалей, ці не застанемся мы ўвогуле без слоічкаў з дзіцячым харчаваннем?

*Зміцер Лукашук.*

*Фота С. Брушко.*

На здымках:
- Дырэктар Клецкага завода дзіцячага харчавання Л. С. Альховік.
- Ручной працы на заводзе хапае.
- У цэхах прадпрыемства.
- Галіна Іванаўна Шостак даўно і плённа працуе на заводзе.



## Наша анкета

*1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?*

*2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сёняшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастырамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі.*

*3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?*



### Уладзімір Клімовіч:

1.

а). Аптымізмам жыву, аптымізмам, якога ў мяне, на вялікае шчасце, не бракуе.

б). Каб сцвердзіць сябе, як творца, асабіста мне не хапае жыллёвай (кватэрнай) незалежнасці, каб хоць аднойчы магчыма было поўнасцю расслабіцца і напісаць штосьці вельмі адметнае. На жаль, сёння поўнасцю аддацца творчай працы я не магу. Надакучлівая думка: "Дзе будзе жыць мая сям'я, калі заўтра гаспадар папросіць пакінуць яго кватэру?" не дае мне спакою. Калі нічога не вырашыцца ў самы бліжэйшы час, прыйдзецца заняцца камерцыйнай дзейнасцю, каб зарабіць грошай і набыць кватэру, хоць для творцы такі занятак згібельны: калі доўга мець справу з вялікімі грашыма, яны прызямляюць і прыбіваюць людзей, вяртаюць іх з казак, мрояў і фантазій у рэальны свет. Культ грошай – вельмі небяспечная хвароба і асабліва для творчых людзей.

Тут не істотна казаць пра талент, таму што творца толькі тады і творца, калі яго штурхае тварыць гэты ж самы талент. А без таленту няма творцы. Ён тады падобны да халоднага манекена, які не можа перажываць, плакаць, кахаць, але ўпарта лічыць сябе чалавекам.

Жыццёвы вопыт – добрая рэч, але гэта не галоўнае для творчага працэсу. Жыццёвы вопыт дапамагае з цягам часу больш дасканала "шліфаваць" свае творы. Толькі дзеля гэтага зусім не абавязкова чакаць уласнага саракагоддзя. Можна сцвердзіцца і ў дваццаць пяць.

А яшчэ мне не хапае адзіноты і вольнага часу.

2.

а). Нішто не замінае. Я заўсёды такі, як ёсць – сам свой.

*б). Увогуле не маю ніякіх адносін да тых ці* іншых партый і грамадскіх арганізацый. Большасць з іх для мяне проста не існуе. Не люблю хадзіць на мітынгі: там асобу падмінае натоўп, а імкнуся існі ў тэатр – там з натоўпам спрабуюць размаўляць, як з асобамі. Добры спектакль заўсёды дае мне творчыя імпульсы. Шкада, такіх спектакляў няшмат, а так гэта неблагая і "тэрміновая" аддушына ў паўсядзённай мітусні для творчага чалавека.

Не думаю, што калісьці якая-небудзь арганізацыя зробіцца маім духоўным пастырам.

3.

а). У мяне іх было шмат, гэтых мараў. Калісьці, калі мне было ўсяго чатыры гады, я марыў пабудаваць верталёт, узляцець у зорнае неба, назбіраць поўныя кішэні зорак і пакласці іх бабулі за вокны, каб зоркі свяцілі ўначы і зыркі свет іх быў добра бачны здалёк. Мяне выхавала бабуля. Калі бацькі распачыналі сварку, я выбягаў з дому і са ўсіх ног бег да бабулі. Яна жыла ў гэтай жа вёсцы праз дзесятак хатаў. Я прыблізна ведаў, у які бок бегчы, але мая чатырохгадовая свядомасць не магла запомніць, дзе канкрэтна стаіць бабуліна хата. І я зарумзаным калабком шнураваў ад аднаго электрычнага слупа да другога, бо выразна помніў, што побач з бабулінай хатай гудзіць растрыножаны цыбаты электрычны слуп. Ноччу я баяўся ўцякаць з дому, за дзвярыма было цёмна...

У дзесятым класе я марыў стаць акторам і сыграць такую ролю, як сыграў Андрэй Міронаў ролю Астапа Бэндэра ў фільме "Дванаццаць крэслаў".

Ужо калі вучыўся на другім курсе тэатральнага інстытута, мяне забралі ў войска. Я трапіў у Паветраныя сілы і сапраўды колькі разоў лятаў "да зорак". Але тады я марыў, каб да мяне прыехала аднакласніца, у якую быў цішком закаханы. Калі ж мне напісалі, што яна выходзіць замуж, мне доўга хацелася апынуцца ў пасцелі з Арнэлай Муці. Здаецца, тут усё зразумела і натуральна.

Цяпер я часта ўяўляю сябе ў белым бліскучым "Мерседэсе". Здаецца, я бачу, як павольна кладу рукі ў чорных скураных пальчатках на руль, плаўна ўключаю перадачу, рэзка кранаюся з месца і, уціснуўшыся ў сядзенне, еду на максімальнай хуткасці. Я хачу, каб шаша была чыстая, без ніводнай машыны; я хачу, каб не напаўзаў з палёў туман і быў сухі асфальт; я хачу, каб не было ў галаве ніякіх думак – я хачу хоць на імгненне ўцячы ад іх. І яшчэ мне вельмі хочацца, каб са мной у салоне нічога і нікога не было, акрамя касеты Высоцкага і маёй любімай кошкі – яна не ўмее задаваць пытанні...

А пра сваю самую запаветную мару я не скажу нікому – на тое яна і запаветная.

б). Працую над новай кнігай.

в). Магчыма, менавіта "КРЫНІЦЫ" дапамаглі мне зрабіць выбар паміж тэатрам і літаратурай, на карысць апошняй, і я не шкадую. Літаб'яднанне пачаткоўцаў – гэта вельмі добра для саміж жа пачаткоўцаў. Тым больш, ёсць свой штомесячны друкаваны ўкладыш. Толькі галоўнае – своечасова ўсвядоміць для сябе, калі ты пераступіш гэтую першапачатковую мяжу і зробіш крок далей.

І яшчэ раз мушу зазначыць, што для творчасці неабходна адзінота.

## Наш альбом



**Анатоль Сыс, паэт.**

**Фота Уладзіміра Пучынскага-Пірага.**

### Андрэй Вашкевіч



Я атрымаў у спадчыну жыццё.
І мушу зразумець,
што калі ўсё адыдзе ў небыццё,
і свечцы маёй болей не гарэць,
я ўкленчу перад Госпадам сваім,
бо не чужыя мы на гэтым свеце...
Ды толькі ў храме, занядбаным і пустым,
цярушыць валасы мае халодны вецер.
— Усемагутны, дай выратаванне
мне і маёй Радзіме...— ледзь жывы
маліцца буду я да рання
ў цішы начы і на жыцця мяжы.
На цяжкі стогн развірацца нябёсы,
павыпаўзаюць з нор усе вужы,
падуць на луг з крывёю росы —
і пацячэ сляза ў Ісуса на крыжы.

* * *

Ноч... Горад глытае дождж.
Усюды пануе змрок.
Святло ліхтароў — гэта нож,
які ўліваецца ў зрок.

Ранак... Сонца збуджае сон,
кідае промні на твар.
Раптам агортвае сум,
чарнее ад чорных хмар.

Дзень... Твары знаёмых людзей.
Клопаты, праца, тлум.
Шэраг нязбыўных надзей.
Вуліц размераны шум.

Вечар... Лёсам уласным прыгнечан.
Усё адышло ў нябыт.
Крочыў шляхам адвечным.
Цяпер для мяне ён закрыт.

* * *

Я палячу да зорных небасхілаў,
калі настане ноч.
І буду часткаю прыроды,
калі настане дзень.
Я стану тленам незваротна,
калі надыдзе смерць.

### Святлана Мядзведзева



### Вечар

І сцерліся зімы ў слоце сваіх тумаnoў,
аселі на холад парэнчаў гранітавых рэчак,
без слёзак васковых уздрыгваюць сэрцайкі свечак,
і вечар сцякае ў людскоі адзіноты прыпол.

Мне хораша рукі аб шклянку гарачую грэць,
і позірк таліць паступова ў суквеццях і мяце,
і нема глядзець, як у бронзавай соннай гарбаце
бразджыць начніковая жоўтая жухлая медзь.

А горад ля ног – лабірынтам асфальтавых змей
і гаснучым бляскам прамоклых у вечары дахаў;
зірні: мы з табою падобнымі сталі да жаху
ў агульным імкненні здзяйснення ружовых надзей.

Як добра, што ў змроку заўжды застаюцца сябры
ў кватэрах над дахамі ў дробнай імжы адзіноты.
Як добра, што ёсць з кім паміж туманамі і слотай
у ціхім святле начнікоў гаварыць, гаварыць...

* * *

Ты прыйдзеш зноў у травеньскую бель
пад ачышчальных навальніц струмені,
ў паветраных аркадах гэтай белі
зазалачэе новы дзіўны дзень.

Мяне ж у беспрытомнасць кіне вір
празрыстых, сумных, урачыстых кветак.
Ты вернешся – я ведаю пра гэта –
у галавакружна пахнучы язмін...

А потым сон няпрошанай імглы
гарачым згусткам нечакана ўстане
і міг апошні ў холад Леты кане,
і голас рэхам стане назаўжды.

* * *

Як цяжка бачыць вогнішча за шклом
і ведаць, што яно не абагрэе,
і гэтым, так прываблівым святлом,
вымерваць даўжыню жыццёвых рэек...

### Бессань

Я не хачу радкоў цяжкіх,
як кара.
Мне горача ад думак
не маіх.
Дабро ў начных абрысах,
як пачвара,
прыходзіць з іншым і чужым
мне тварам:
удзень – дабро, але ўначы –
карысць...
Я не магу заснуць недараванай
у шчыльнай блытаніне
дзённых спраў.
Ярчэюць уначы памылак
фарбы,
пражыты дзень змяняць,
напэўна, марна.
Мае асечкі – вопыт і цяжар..

* * *

Магчыма і добра, што я абяссілела з суму,
што фарбы палотнішча зношу на шэрасць гадоў,
што рукі мае ўсё часцей апускае да долу
не мной – пра мяне – шчэ нясконачанае палатно.

Магчыма і добра, што п'яныя, хісткія мроі
трымаюцца мезенцам за надарваны канат,
што я ў пацалунку злілася з трывалай сцяною
і стала сама, быццам стромкая гэта сцяна...

Што каюся толькі таму, што каяцца трэба,
ды больш у пазыку бяру шчаслівыя дні...
Мы ў волі адзінага вечна сумленнага неба,
мы ў плоскасцях двух неспазнанай і новай зямлі.

### Калыханка

Я не гойдаю, не гойдаю цябе,
ледзь сціскаю ў ледзяных далонях
стомаю палаючыя скроні...
Чуеш – проста ноч на вусны дзьме.
Чуеш, як за сінімі агнямі
над апошнім плёскатам вясла
ў складках аксамітнага плашча,
твая песня сцялася ў чаканні.
Выцвілая бедная трава
шаблячкамі коле мае пальцы.
Я не маю сіл ужо трымацца,
я хварэю без твайго цяпла.
Кожны дзень, што быў і будзе шчэ,
кожны ўздых і кожная малітва,
і маіх спакус, страсцей адбіткі
так даўно сышліся на табе.
Спі, як сон, які ніхто не сніў.
Сон, што пахне мятай і начамі,
сенам, жніўнем, znічкамі, каханнем...
Сон, які не здзейсніцца ні з кім.



Юлія Алесьніна



*Апавяданне*

# ГАННАЧКА

*Фіялетам распішацца дзень...*

**Алесь ПАШКЕВІЧ.**

Алена Сяргееўна, настаўніца малодшых класаў, нервова збіралася на працу. Учора зноў заседзелася над сшыткамі, пакуль паветра ў пакоі не пачало адлюстроўвацца спружыніста-звонкімі хвалямі ў галаве. "Відаць, сказваецца стомленасць за апошнія месяцы пастаяннай напружанасці. Няма звычнага спакою і раўнавагі. Дый вучанёчкі дзень пры дні падносяць новыя сюрпрызы. І што цяпер за малыя пайшлі?.."— думала яна, спешна глытаючы гарачую гарбату...

Маленькага росту дзяўчо ў жоўтым футэрку, белым вязаным каптурыку і белых боціках, з вялікім карычневым партфелем, які, здаецца, больш за яе самую, правальваючыся ў гурбы снегу, намеценыя за ноч, паступова набліжалася да школы. Марозная цемра прабівалася толькі слабым святлом рэдкіх ліхтароў і вокнамі дамоў, што свяціліся холадам, бо цяпло было схавана ўнутры бетонных каробкавых гмахаў. Ды беласрэбная віхура кантраставала з чарнатою зімовага ранку. Калючы, завірушлівы вецер кідаўся ў твар і збіваў з ног.

— Ганька, прывітанне!— весела выгукнула дзяўчынка ў чырвоным палітончыку з капюшонам, аздобленым белым паскам. Яны разам узбеглі па прыступках "малодшага" корпуса школы і, абтрасаючы снег, доўга тупацелі на ганку перад важкімі дзвярыма, знаходзячы ў гэтым занятку гульнёва-смяшлівую радасць.

Першым урокам была родная мова. Аднак напачатку настаўніца вырашыла праверыць маляваныя "Дзённікі прыроды", дзе кожны дзень патрэбна было адзначаць тэмпературу, ападкі і іншыя звесткі, а таксама адказваць на пытанні. Дзённікі далёка не ва ўсіх аказаліся спраўнымі і прыгожымі, і таму нервовая раздражнёнасць Алены Сяргееўны, з якою яна сёння спяшалася да сваіх вучняў — малых траглады таў, яшчэ больш павялічылася. Да таго ж і зададзены вывучыць напамяць верш амаль усе адказвалі млява, збіваючыся і раўнадушна, а па класе, хоць і стаяла цягучая цішыня, парушаемая манатоннымі адказамі ды гулам кудасы за акном, усё ж лёталі папяровыя самалёцікі, пушчаныя нябачнаю рукой.

Ганначка сядзела за сваёй трэцяю партай паблізу ад сцяны і задумліва — праз галовы аднакласнікаў — пазірала ў акно. Яна вельмі любіла гэты час раніцы, калі па небе распаўзаецца, разліваецца густы фіялет, сабою змываючы ўсеісныючыя чорныя фарбы зімовай ночы. Такія ранкі чамусьці бываюць рэдка і толькі ў асаблівыя перыяды пэўнага часу года, але не заўсёды звяртаеш на іх увагу, хаця яны і нясуць у сабе нейкі шматзначны і няўлоўны сэнс, бо інакш чаму чалавек адчувае сябе не так, як раней, у такія імгненні, хоча ён таго ці не.

Алена Сяргееўна, стоячы ля дошкі, круціла ў пальцах складзеную паперку. Яна не слухала адказу заўсёднага троечніка Алега Змушніцкага, засяроджана думала пра нешта сваё і як быццам не зважала на абстаноўку ў класе. Раптам стомлена ўзняла вочы, неяк адлучана абвяла ўсіх і спынілася на твары Ганначкі Макавей, самай ціхай і старанннай сваёй вучаніцы. Любіла назіраць за ёю і звычайна ў думках называла пяшчотна і ласкава: Ганначка.

Алена Сяргееўна заўсёды адзначала сабе, што гэтае ў кароценькай школьнай сукенцы і карункавым пярэднічку, з акуратна ўплеценымі карычневымі стужкамі ў цёмна-русыя коскі, з зялёнымі, думна-вясёлымі вачыма дзяўчо надта блізкае і нават роднае ёй. Часта хацелася моцна прытуліць Ганначку да сябе і забыцца так на колькі хвілін, адчуць асалоду спакою і нечага яшчэ. Неадольная, загадкава-ўзнёслая сіла вабіла Алену Сяргееўну да дзяўчынкі.

Маладой, гадоў за трыццаць, але ўсё яшчэ адзінокай жанчыне, чым далей, жыццё здавалася больш цяжкім і бязрадасным. У адным толькі паглядзе сваёй вучаніцы яна знаходзіла сабе падтрымку і духоўныя сілы. Таму і шукала адбітку ўласных словаў на яе твары. Так, яна зусім не наўмысна спыніла свой позірк на дзяўчынцы. Гэтае адбылося цалкам машынальна, бо зараз знаходзілася ледзь не ў беспрытомным стане. Вачэй адвесці ўжо не магла: твар Ганначкі свяціўся рахманай супакоенасцю і выпраменьваў нейкую ружова-рамантычную задуменнасць, што паступова запаланяла сабою класны пакой. І настаўніца са здзіўленнем адзначыла, што бачыць гэтую празрыста-дымную заслону перад сабой, а светла-фіялетавыя згусткі наплываюць і збіраюцца вакол, несучы палёгку галаве і сэрцу. Нечакана адчула сябе вольнаю і як бы захутанаю ў бязважкую ліловую, падобную на воблака, пару і... Але тут прастору рэзкім бразгатліва-металічным віскам разарваў званок. Вочы Алены Сяргееўны шугнулі нядобрым полымем, грымаса болю перакрывіла твар. Яна вокамгненна апынулася ля дзвярэй і ў адну секунду знікла.

Першы перапынак быў самым нелюбімым амаль ва ўсіх вучняў. Вось і цяпер зайграла марш-музыка, заклікаючы ставіцца на зарадку. Не тое каб малыя не любілі ўвогуле фізічных практыкаванняў, але адзіныя толькі ўзмахі рукамі страшэнна надакучылі, бо прагным было жаданне паскакаць, пабегаць, пасмяяцца ўголас, каб знайсці выйсце сваёй імклівай энергіі, а не, як заведзены на замаруджаны стан, млява паварочвацца і разводзіць рукі ў бакі, а пасля так званай зарадкі ціха, узяўшыся за рукі, парамі хадзіць па крузе ў квадратным калідоры. Такім чынам у школе стваралася хоць на непрацяглы час цішыня. Нездаровую была гэтая цішыня - дзеці адчувалі сябе ці то хворымі, ці то вязнямі пад пільным наглядам, пазбаўленыя свайго рогату і няўрымслівасці.

Алена Сяргееўна, штурхаючы, выстраіла вучняў у тры роўныя калоны і загадала крочыць на месцы.

— Раз... раз, два, тры... Віця, стань роўна!.. Волька, падымі галаву!...— Яна пакрыквала на таго-сяго, тым часам перамяжоўваючы выразны, адрывісты лік.

Нарэшце прагучала:

— Стой!.. раз-два...

І тут жа паследавалі практыкаванні з паваротамі і развядзеннем рук, з абавязковымі прысядамі... Трэцякласнікі, хто ціхенька вохкаючы, як старычкі, а хто — хвацка, рыўком, і таму не трапляючы ў адзіны рытм, прысядалі, чым канчаткова ўзлавалі сваю настаўніцу.

— Досыць!— не вытрымала яна.— За тое, што спецыяльна зрываеце сёння зарадку, вы зробіце дзесяць дадатковых прысядаў. І як след! У рытме!

— Што гэта наша Алёна як з ланцуга сарвалася? Сапраўдная ведзьма,— не хаваючы злосці, скрозь зубы сказаў Генадзь Курачкін свайму найлепшаму знаёмцу Андрэю Верашчэю, які стаяў паперадзе.

— Ох, цішэй ты! Што табе яна, лепш не чапай!.. Генадзька, ой, будзе на-а-ам!.. Палундра! Да нас ідзе...

— Ты чаго верашчыш?!.— Алена Сяргееўна, пагардліва кінуўшы вокам на Андрэя, прайшла паўз яго да Курачкіна.— А ты, дарагі Генадзік, зараз і пакажаш усім прыклад...—Курачкін маленькімі злоснымі вочкамі, як хітрае ваўчанё, утаропіўся ў твар настаўніцы, але тая, доўга не думаючы, за каўнер выцягнула яго наперад.— Ну, што?.. Пачынай!— сказала са спагадлівай усмешкай.

Здаецца, настрой яе палепшыўся, нават з выгляду паспакайнела. І ўсё ж Курачкін даволі хутка пазбег мінутнай разгубленасці і адаптаваўся ў новай ролі: з крыкам "Гэй, зададзім жару!" ён пачаў прысядаць "пісталетам", круцячыся ва ўсе бакі, і курчыцца з твару, быццам сам нячысцік усяліўся ў яго. Алена Сяргееўна падскочыла да Генадзя, зноў схапіла за каўнер, прыўзняла ў паветры і калатнула з усёй сілы, што ў таго ад жаху і нечаканасці душа праз пяты ледзь не выскачыла. Пасля спакойна, не гаворачы ні слова, але і без злосці, падштурхоўваючы ззаду, павяла Курачкіна ў клас, адначасова зрабіўшы жэст астатнім, каб ішлі за ёю.

Калі зацікаўленыя і крыху напалоханыя вучні пасядалі за парты, Алена Сяргееўна з таямнічым выглядам і зноў-такі жэстам заклікала да цішыні, глыбока ўздыхнула і сказала:

— Дзеці мае! Я не разумею, што адбылося. Але гэтае немагчыма!... Курачкін перайшоў усе межы. І таму ён павінен панесці пакаранне... Я прапаную запрасіць у школу ягоных бацькоў, а самога адправім зараз да дырэктара... Падыміце руку, хто не згодзен з гэтым?

У класе настала проста замагільная цішыня, у якой аднак пранеслася нешта нябачнае і незразумелае, І неўзабаве, як прысуд самой настаўніцы, узняліся тры рукі. У адно імгненне Алена Сяргееўна смужна адзначыла, што менавіта тры, але не адразу ўсвядоміла, чые іменна. У яе кружылася галава. Яна на момант заплюшчыла вочы, пасля абвяла марудным позіркам застылы клас і ўбачыла: першая рука была самаго віноўніка Курачкіна, другая (пагляд яе паволі рухаўся) — Андрэя Верашчэя, а трэцяя, трэцяя... Ганначкі!

Ногі больш не трымалі Алену Сяргееўну, яна пахіснулася і... села на настаўніцкі стол. Правяла ўзмакрэлай далонню па лбе, нібы зняўшы ўдар, які так нечакана атрымала, і роўным, сухаватым голасам папрасіла:

— Макавей, растлумач, калі ласка, сваю пазіцыю...

Ганначка ўстала, агледзелася і, як у сне, не ўбачыла ніводнага твара, які б яе падтрымаў,— вакол простая і аднолькавая шэрая цікаўнасць, не больш таго, акрамя задзірліва-вінаватай мордачкі Курачкіна і палахлівых вачэй Верашчэя. Усе з бояззю і патаемнай радасцю чакалі завяршэння відовішча і былі няздольныя на нейкія пэўныя дзеянні ці рэплікі.

— Я думаю...— нясмела пачала Ганначка.— Я думаю, што вы, Алена Сяргееўна... Хоць Генадзь і вінаваты... Вы не маеце права так трэсці яго... Я падтрымліваю Курачкіна — ён смелы!

Алена Сяргееўна дзікавата глядзела на сваю любіміцу, звычайна такую маўклівую вучаніцу, амаль не разумеючы, што тая гаворыць,— бязлітасным цвіком яе працінала адчуванне здрады.

А за акном даўно ўжо стаяў дзень, на небе не засталося нават і напаміну аб дзіўным фіялеце, што гэты раз аднаму прынёс узвышэнне ў разуменні пэўных ісцін, другому — шкадаванне аб мінулым і прымусіў задумацца пра нязвычнае для сябе, а ўвогуле — прынёс абаім непаразуменне.

Святлана Якубоўская



* * *

У замутнёнай вадзе зарослай сажалкі
не адбіваюцца праменьчыкі сонца
і ўсмешкі дня.
Лёгкі ветрык не кранае яе застылай плыні.
І толькі непрытоены смутак пануе наўкол.
Чалавечая душа,
зарослая цінаю раўнадушша,
не адлюстроўвае імгненняў радасці.
Зазірнуць у яе немагчыма.
Зарослая сажалка, бы люстэрка
зарослае чалавечае душы.

### Крыніца дабрыні

Неўтаймаванай дабрыні
яшчэ не высахла крыніца:
жывою музыкай звініць,
спагадай ветліва іскрыцца.
Гаючай сілаю сваёй
у душах нашых раны лечыць...
Яе пяшчотай, цеплынёй
свет апавіты чалавечы.

### Развітанне з кастрычніцкім святам

Журбою восень засцілае шлях.
Сляды ў былое ціха замятае.
Лісточкам лістапада адлятае
і смуткам адбіваецца ў вачах
святочны дзень,
што страціў свае фарбы...
Ад нас ён адарваны назаўжды.
Дарэшты змылі ўсю яго прывабнасць
бязважкія мінулыя гады.
Слязою крыўды набрыняе час.
Вятрыська песню сумную спявае —
і ўсё наўкол нібыта спачувае,
што гэты дзень не вернецца да нас.

Станіслаў Валодзька



### Світанак

Аж збялелі зоркі раптам:
гэта ж трэба,
хутка ранак!
Ад фізічкі да галактык
тэмы ўсе паперабраны.
А яшчэ, што так пачуць ёй хочацца,
не гаварыў ён,
хоць ад выбуху пачуццяў
месяц — глушанаю рыбай!
Ды адвага ўсё ж прыходзіць,
і ці так, як гэта трэба,
твар паднёс ён і...
на ўсходзе
засаромелася неба!

* * *

Маршрут твой жыццёвы —
ад кропкі адліку,
ад кропкі маленькай
на карце вялікай.
Да кропкі апошняй —
сысці немагчыма:
пастаўлены лёс твой
на карту Айчыны.

### Матросу

Доўга плыў і ляцеў.
Доўга ехаў і йшоў.
Ты адно так хацеў
прычасціцца душой.
Да вытокаў сваіх
жыватворных. Ад іх
моц бяруць карані
і твае, і радні.
Ты вярнуўся здаля
ў першародны свой кут.
Ты вудзільнам змалля
пасвіў воблакі тут.
Стужкі дзве — на плячах,
а ў душы марака
і маленства ручай,
і дзяцінства рака.
І да вусця жыцця
будзеш помніць, матрос,
дзе з Радзімай малой
разам некалі рос!

Вера Буланда



### Таўтаграма-С

Скарыў сасоннік сон.
Слязой сцякла смала.
Сава страшэнны стогн
Спусціла са ствала.
Смуга сышла. Сабой
Схавала сойкі спеў.
Святлом святляк спакой
Сасны сухой сагрэў.

Ігар Карповіч



М

Як і Вялікі Рым, ляжыш Ты на
Хоць Твой прыгожы край халодн
Але квітнее ў ён, калі па ім ід
Якую з поўдня прынеслі беларус

Шмат варожых і драпежных ла
Паліла, рабавала, крыўдзіла Тва
Але адраджаўся Ты і– гучала С
Максіма, Караткевіча... І ўсё ж

Гучала мова простага працоўнаг
Дрэнна ці добра было, а не трэба
Хачу аднаго... Не! Не песці мяне

Дай апошні прытулак на гэтай

Фа

Маленькі хлопчык пекна трымае
Памерна вецер у шатах старога
Маладыя матулі з калыскамі, школ
Адзінокі стары, які на кладцы сядзі

Шум вады, гоман птушак, гук т
Катаклізмы сусвету: вайна, эпід
Не разлучаць сяброў, якія стаяц
Іх можа знішчыць толькі Час, я

Анёльская ўсмешка дзіцяці, безабаро
Застануцца ў памяці, у сэрцы мя
Дзеці і птушкі! Як зрабіць так,
Каб дарослыя слухалі чыстыя, с

Кур

Драўляны крыж вырас сярод зя
Багатая ўгнаеннямі глеба на жа
Вырас як памяць па бязвінназабітых
Каб не давялося і ім малодшага

Доўга яшчэ будуць помніцца гуч
Якія чуліся з-за вялізнага бясшч
Што ўжо зараз рабіць дасканал
Трэба думаць аб будучым чалаве

Шуміць цёмнай восеньскай ноччу
Над недарэчнымі магілкамі, дзе
Падумай: кім будзеш ты – ахвяр

Не прайшоў той час, калі назаўжд

Траецкае

Ну які багаты цудамі лес без пр
Радуюць вока ў жоўта-зялёнай тра
Як не рэж, а іх большае з кожн
Падобна грыбам, што растуць к

Пасля таго, як іх паліў ласкавы
Узраслі над Свіслаччу, быццам л

# З кнігі

# "МЕНСКІЯ САНЕТЫ"



## Менск

жыш Ты на сямі халмах,
край халодны і лясны.
алі па ім ідзе Вясна,
еслі беларускія буслы.

апежных лап Цябе таптала,
ыўдзіла Тваіх дзяцей.
і– гучала Слова бессмяротнае Купалы,
а... І ўсё ж за ўсё грамчэй –

га працоўнага народа!
, а не трэба за сабою масты нам паліць.
е песці мяне Сваёй асалодай;

ак на гэтай зямлі...

## Фантан

екна трымае за шыю лябёдку,
тах старога сквера гуляе.
льскамі, школьнікі вяртаюцца з урокаў,
клады сядзіць і пра былое жыццё ўспамінае.

шушак, гук тралейбуса "двойкі"...
вайна, эпідэміі, яшчэ адзін патоп
, якія стаяць, не робяць нікому шкоды;
олькі Час, яго вар'яцкі галоп.

цяці, безабаронная, бяскрыўдная птушка
, у сэрцы мянян і іхніх гасцей.
рабіць так, каб словы вашы сталі больш слушнымі,
і чыстыя, светлыя думкі часцей?

## Курапаты

ас сярод зялёных хваін;
глеба на жалобным тым месцы.
звіннаабітых душах. Нагадвае ён маладым,
м малодшага брата ягонага ўзвесці.

помніцца гучныя стрэлы і крыкі,
знага бясшчыльнага плота.
ць дасканалыя бухгалтарскія падлікі?
дучым чалавечага роду.

ньскай ноччу лес у Курапатах
гілкамі, дзе няма сілуэтаў капцоў.
ты – ахвярай ці катам?

калі назаўжды голас аўтамата замоўк.

## ецкае прадмесце

мі лес без прыгожых грыбоў?!
а-зялёнай траве масляки, абабкі, лісічкі!
ьшае з кожным восеньскім днём.
о растуць каля нейкай крынічкі.

аліў ласкавы вераснёўскі дождж,
у, быццам лялечныя, хаткі.

Там і "Вянок", і "Пернік Траецкі", а для некага й –
"Апошні Грош",
Хаця і шыкуюць у ім зусім не тыя, у каго засталіся астаткі.

Абаранілі, уратавалі, узнавілі рэштki старога Менска.(Прывыклі ўсё карыснае здабываць хоць якімі баямі)
Дай Бог! Каб стаялі дамы тыя не адно яшчэ сонечнае лета!

Каб было што паказаць гасцям добрым мянянам!

## 30 кастрычніка 1988 года

У адной з далёкіх і глухіх першародных беларускіх вёсак
Старая бабуля ставіць на стол каўбасы, яечню, клёцкі, куццю,
Бо зноў прыйшла доўгачаканая зміцроўская субота,
Якая нясе ўспаміны аб продках, робіць вынік году,
ураджаю, жыццю.

"Прыходзьце, дзяды-радзіцелі. К сваёму сталу, к нашаму прыпечку", –
Вымаўляюць старэчыя вусны і запальваецца памінальная свечка...
І ў сталічным Менску збіраюцца людзей многія тысячы,
Каб успомніць тых, над кім апусцілася труны драўлянае цяжкае вечка.

Але цывілізаваны горад сустракае "черёмухой" старажытны абрад;
Вадамёты стаяць, атрады міліцыі ў шынялях і з тварамі блакітна-шэрымі.
"На кладбища никаво не пускаты" – пачуўся строгі, уладны загад.

І не пусцілі ні моладзь, ні сталых, ні Анікейчыка з кветкамі
для Машэрава...

## "Песняры"

Прыемныя сэрцу гукі роднае забытае песні
Даруюць у часы нямоды на мову Беларусі сыны.
Шумам шатаў лясных, туманам балотным, крыніцаю льецца
Музыка, і ў дысананс ёй гучаць гожыя галасы.

Ляцяць тыя песні "канём незацугляным"
Над прасторай краіны, Еўропы і Штатаў;
Як і раней, калі пры свеце лучыны, пры сонцы барвяным
Народ іх спяваў за работай у полі, на святах.

Не забыліся музыка, словы ў вар'яцкіх вяках;
Не забілі мовы нашай ні Кайзер, ні "пан", ні Бацюшка-цар...
Будзе жыць добрая памяць і аб "Песнярах",

Бо давалі
тыя песні яны "як доўг, і як дар".

## Стэфанія

Пара мудрасці, якая настае для людзей так нечакана,
Дае магчымасць асэнсаваць спакойна шлях жыццёвы.
Няма ўжо планаў Напалеона, ставішся да ўсяго больш рэальна,
Мала што можа здзівіць, захапіць і здавацца па-сапраўднаму новым.

Але, кажуць, што сталасць можна параўнаць і з дзяцінствам
У добрым сэнсе; калі Сонца дае радасць, навіны прыносіць кожны
Божы дзень.
І зноў паўстаюць вобразы таты, мамы, гімназіі Марыінскай,
Тэатральная Масква дваццатых, былых сяброў добрай памяці цень.

Стэфанія! Стэфанія! Імя дарагое народу Белай Русі,
Бо яго носіць жанчына, якую можна раўнаць з прыгожаю рутай.
Ганарацца французы Сарай Бернар, ёсць вялікая Анджапарыдзе ў Грузіі...

Дзякуй Богі Ты даў нам жэмчуг – Стэфанію Станюту!

## Купалаўскі парк

Замерлі надоўга каменныя вянкі ў каменных руках,
Спыніла свой ход цёплая купальская ноч
У мёртвым руху чыстых дзяўчат. Мяняецца толькі вада,
Калі струменямі б'е фантан; чарункамі блішчыць на дне жоўць.

Дзівосныя здані статуй узніклі каля галоўнай алеі,
Якая вядзе гасцёўна да магутнай постаці Янкі.
Ганаровай вартай стаяць вакол стройныя дрэвы.
І аж у вачах мітусіць ад сонечных промняў на зялёнай палянцы.

Гладкі брук ляжыць пад нагамі панцырам вялізнай чарапахі;
Больш салодкім робіцца пацалунак у цішы пад жоўтым ліхтаром.
Памерна Свіслач цячэ, віднеючца за ёй, бы маляваныя, гмахі.

Крышталём лясным аддаецца Кафедральнага сабора спакойны, зычны звон.

## Старыя тракты

Сонечнымі праменнямі беглі ад Менска дарогі;
Струменіліся гасцінцы ва ўсе канцы свету.
Бедных людзей вялі па іх навярэджаныя ногі,
Багатых неслі прыгожыя коні, запрэжаныя ў карэты.

Клікаў шлях рамантыкаў невядомасцю, марай;
Суправаджаў даждажамі, завірухаю, пылам.
Хвалі мяцежнікаў бяскрайнія беларускія далі.
Як вены, злучалі яны з Даўгінавым, Ігуменам, Вільняй...

Горад рос, уваходзілі ў яго межы заставы;
Хутка з'явіліся ў цэнтры Траецкая гара, Старажоўка.
І ўжо чорны колер цвёрдага маладога асфальта

Гісторыю трактаў старых паўналраўна прадоўжыў.

## Плошча Перамогі

Не даслужыў ён да льготных генеральскіх пагонаў.
Зрабіў з прыгожага хлопца лёс брыдкога калеку:
Не носяць яго зараз спрытныя, моцныя ногі,
А рыпяць пратэзы і рыпець будуць да канца жыццёвага веку.

Зранку згроб з кішэняў дробязныя, невялічкія грошы
І купіў на іх кветкі, пазбавіўшы сёння сябе піва.
Дайшоў да Плошчы, букет паклаў, прагна дастаў папяросу,
Бо адчуў, як падыходзіць да горла ком слёзнага прыліву.

"Ай, браткі! Усё ж добра нам разам жылося!
Паказалі гадам картавым Кузькіну маці!
Ой, хлопчыкі родныя! Што ж цяпер мне засталося?!
Мілыя дружы! Шчаслівага дурня да сябе ў госці чакайце!".



*Гасцёўня*



Павел Пруднікаў

* * *

Дождж са снегам, дождж са снегам,
Слока і туман.
Сум навокал, хмар набегі
І... скразны падман.

Думкі-мары, ліхадзеі
Рэжуць без нажа,
Бо ніякае надзеі —
Чорная мяжа...

Смутак, смуты панаванне
У небе, на зямлі...
Дзе ж, скажыце, ратаванне?
Скуль чакаць, калі?

## Пакаянне

Я стаміўся. Даруй мне, Радзіма,
Што выходжу з ігры ў такі час.
Коні смуты ў душы наслядзілі,
Закапцілі шлях на Парнас.
Пыл і муць, хоць ты выкалі вока!..
Не адолець мне іх аніяк.
Сам сабе стаў чужым і далёкім.
Не гару, а капчу, як смаляк.
Не крычу, не шукаю ратунку,
Не малюся ўпотай, цішком.
Не чакаю людскіх пацалункаў
І спагадлівай волі бажкоў.
Я свабодны ад пут і падманаў,
Ад зямных і нябёсных цароў.
І былое ў пурзе і тумане
Адгрымела, як восеньскі гром!..
Дык даруй жа за ўсё мне, Айчына:
За мае і чужыя грахі.
Ты, як трэба, заблуду вучыла,
Ён жа часам быў чэрствым, глухім.
І цяпер, на апошнім паўстанку,
Пакаянне нясу на алтар.
А грашыў я ў поцемках змалку,
Як падзёншчык, а не гаспадар.

## Развітанне з Каўказам

Больш сюды я, пэўна, не прыеду.
Не крыўдуй, заснежаны Бешту.*
Колькі смутку, радасці я зведаў
Пад няспынны вэрхал, гоман, шум!
Час няўмольна падразае крылы,
У душу залазе не на жарт.
Галаву і сэрца сівізной пакрыла.
І арол цяпер мне ўжо не брат.
Хай сюды імкнуцца маладыя,
Ну а мне —
Пара ўжо на спачын.
Пахаваў юнацкія гады я,
Праз агонь і пекла ідучы...

* Бешту — гара Бештаў.

* * *

Цёмна ў лесе, цёмна ў белым свеце.
Скрозь пануюць смутак і туга.
Цёмна, мабыць, і ва ўсім Сусвеце,
На марскіх бясконцых берагах.

Сумна ў полі, у пажоўклым лузе
І на люстры роўнадзі рачной.
Ні абдымкаў цёплых, ні ілюзій,
Як бывае ранішняй вясной.

Сум і цемрач на душы паэта,
На святло надзеі — ані-ні...
Ён згубіў вясну сваю і лета,
Седзячы на казачным кані.

## Размова сам-насам

Ёсць канцэрны докераў,
Ёсць канторы брокераў,
Дзе ж суполкі муляраў,
Слесараў і токараў?
Раць кааператураў,
Акружаная босамі.
Творцы слова, пэндзаля
Засталіся босымі.
Выдаўцы, газетчыкі
Маюць сваіх спонсараў.
Мастакі, пісьменнікі
Зацкаваны борзымі.
Пазабілі радыё,
Тэлерадачы
Спрытныя хапугі,
Махляры ўдачы.
Што ж цяпер пакінута
Для душы, для сэрца?
Нічагуткі, пэўна,
Акрамя як перцу.
Ёсць канцэрны докераў,
Ёсць канторы брокераў.
Ад душы і сэрца
Усе яны далёкія.



## Праводзіны

Вось сыходзіць апошні манарх
Самай буйнай імперыі свету.
Не шматжонца ён і не манах,
Быў любімцам прыдворных паэтаў.
Шмат было іх за сотні гадоў —
Неразважлівых, мудрых і грозных.
Кожны з іх існі ў бой быў гатоў
За прастол "надзвычайна сур'ёзны".
А народ?
На яго напляваць.
Ён заўсёды служыў ім за шырму.
З ім падручна за трон ваяваць,
Як за месца ў бізнесе-фірме.
А траплялі на імперскі трон
Дзівакі, прайдзісветы, садысты.
Наламалі нябожчыкі дроў,
Асабліва з пароды марксістаў.
Выключэннем не быў і царок,
Пра якога гавораць: "Апошні!.."
Ён наперад зрабіў пэўны крок,
Ды, на жаль, не зусім асцярожны.
Ён падсек той надзейны свой сук,
На якім красаваўся на троне.
І застаўся, як майстар без рук,
Як пірат у разбуранай Троі.
Мы праводжваем сёння яго
У шлях-дарогу з крылом перабітым.
Не тузаем, не гонім бягом
Па імперыі, ім жа разрытай.
Што ж, Міхалка, прабач і бывай!..
Ты зрабіў немагчымае ў свеце.
Што накрэмзаў, за ўсё атрымай
З перцам спечаны хлеб-каравай
І схавайся, як прашчуры, ў Леце.

**Снежань, 1991 г.**

*Ганарар прашу пакінуць на патрэбы літаб'яднання "Крыніцы".*

*Нашы рэцэнзіі*

# На дымных шляхах

"Дымнае жыта" — сваю першую кніжку — Сяргей Фамін здаў у выдавецтва яшчэ ў канцы 20-х. Выйшла ж яна... у 1991-ым.

Дымнае жыта... Што азначае гэты назоў? Відавочна, гэта шырокі сімвал, шырокі, як і сама паэзія Сяргея Фаміна.

На шляхах дагаралі бярозы,
І з зялёнага полымя – дым...–

знаходзім у вершы паэта. Дым з зялёнага полымя. Літаральна гэта ўспрымаецца дваіста. Над жытнім полем, якое весяліцца жыццёвай квеценню, вецер падымае дымную пыльцу. З гэтай асацыяцыяй едніцца наступны радок С.Фаміна: "Можа, шлях той травою зарос..." Вялікая сіла жыцца чалавечага, але слоўная нагрузка прыведзеных вершаў прыводзіць і да іншага.

Мо пажар патушылі гады...–

працягвае аўтар. І дымнае жыта — гэта яшчэ і пажар жыцця саміх людзей. Жыццёвую сцежку, па якой крочыць паэт, гэтае поле жытоў ахінае дым, ахінае полымя лёсу, у якім згарэў, як той колас у час сваёй квецені, і Сяргей Фамін (расстраляны ў 1941 годзе). І ці ж радок "Мяне жыццё агнём пацалавала..." не творцава прароцкасць?

Такія супрацьлеглыя межы сімволікі аўтара дазваляюць гаварыць аб ахраматычнасці яго паэзіі. (Ахраматычны ў значэнні: той, які ляжыць у межах ад чорнага да белага (чорны — светла-чорны — шэры і г.д. да белага).

У межах ахраматычнасці я і бачу творчасць Сяргея Фаміна. І чорныя, і белыя фарбы аднолькава выразна бачацца яму праз паэтычную прызму.

Паэт паставіў пропуск у графе анкеты дэлегата 1-га Усебеларускага з'езду пісьменнікаў, дзе значылася: "Да якога літкірунку сябе залічаеце". Блізкім яму было ўсё...

Паэт захапляецца "бурапенным" поступам жыцця, яго новымі рэаліямі:

...пойдуць людзі шляхам новым,
без папа там будзе люба!
...светластрунныя матory
кінуць спевы ў сенажаць!
*(верш "Ой, звіні ў палёх, жалейка...")*

Ад гэтых таноў аўтар пераходзіць да зусім іншых. Вось прыклад такога пераходу:

Паглядзіш, як трактарам-маторам
Будзе рэзацца па-новаму зямля,–
... І мае румянкавыя касагоры
Перастануць у далях красаваць.
*(верш "Зашумела шоўкам шолах-гліца...")*

С.Фамін бачыць і тыя заганы, якія нясе прыродзе "новае" жыццё, жальбуе ад іх. "Шкода мне румянкавую бель",— ёсць радок у паэта. (Звярніце ўвагу — бель).

Але не было б ахраматычнасці, калі б не было паступовасці ў змяненні гэтай думкавай танальнасці. Часта ўжо названыя матывы зліваюцца, і нараджаецца сярэдняе, складзенае ў адно:

Пакажыся, трактар, спеў матора кінь:
Заарэм рамашкі – будуць васількі...
*(верш "Разлілася рэчка...")*

Трацiла б паэзія, каб бачыліся толькі чорныя й белыя фарбы. Мазкамі мастацкай рукі С.Фамін наносіць на вершы і вясёлкавыя колеры. У яго вершах шмат яркіх вобразаў, метафар, параўнанняў ("залатая праменняў салома", "касагораў белыя грудзі аддаліся без барацьбы" і інш.).

...Згарэў колас, не паспеў разгарнуцца ва ўсю моц талент Сяргея Фаміна, але на жыццёвай руні відаць кветачная пыльца яго душэўнай прыгажосці...

**Віктар Лянок.**

Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у грамадскай прыёмнай штотыднёвіка "Чырвоная змена" (Дом друку. Праспект Ф. Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх).
Тэл. 32-65-46.
Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка.

## На ўсіх адна бяда



У вёсцы Свяцк Бранскай вобласці, заснаванай яшчэ ў 1712 годзе, калісьці было больш як 5 тысяч жыхароў. Знакамітыя свяцкія кірмашы прыцягвалі сюды сотні гандляроў... Аб мінулым шматлюддзі цяпер даводзіцца толькі ўспамінаць.

Прычына гэтага – высокі ўзровень чарнобыльскага забруджання. Сем'і, што з пакалення ў пакаленне жылі на гэтай зямлі, кінуліся ў перасяленцы. У мясцовым калгасе засталося каля дзесятка механізатараў, якім проста няма куды ехаць.

НА ЗДЫМКУ: вуліца Маладзёжная, на якой 20 добрых будынкаў, пабудавана ў 1989 годзе. Яна абышлася калгасу больш чым у паўмільёна дапаўлаўскіх рублёў. Цяпер тут жыве толькі 5 сем'яў.

Фота Л.СВЯРДЛОВА.

## ЯШЧЭ АДНА САДРУЖНАСЦЬ

У Вільнюсе нядаўна створана Садружнасць палітычных і грамадскіх арганізацый Усходняй Літвы. Як паведаміў "Чырвонай змене" член прэзідыума савета гэтай арганізацыі Эдвардас Саткявічус, утварэнне Садружнасці, у адрозненне ад сустрэчы ў Віскулях, мае на мэце нараджэнне трывалага саюза розных арганізацый і прадстаўнікоў усіх народаў, што жывуць ва Усходняй Літве: літоўцаў, беларусаў, палякаў, яўрэяў, татар, украінцаў... Садружнасць мае намер актыўна займацца палітыкай, удзельнічаць у выбарах, уцягваць мясцовае насельніцтва ў грамадскае жыццё, шукаць кампрамісы і рашэнні агульных праблем. Садружнасць супрацьстаіць камуністычным і нацыянальна-фанатычным ідэям і дзеянням ва Усходняй Літве. У склад новай арганізацыі ўвайшлі таварыствы "Вільнія", "Вільнюскі клуб", саюзы палітзняволеных і выселеных, таварыствы яўрэяў, татар, украінцаў, беларуская "Сябрына", польскае таварыства святой Зіты і іншыя арганізацыі. Саюз палякаў Літвы (найбольшая з польскіх арганізацый) удзелу ў Садружнасці не прыняў.

## ДА ЎВАГІ АД'ЯЗДЖАЮЧЫХ...

Шырокавядомы ў нас Беластоцкі рынак змяніў сваю прапіску. Старыя гандлёвыя рады, што знаходзіліся не так далёка ад чыгуначнага вакзала (у цэнтры горада), перанесены на ўскраіну, на вуліцу Кавалерыйскую. 1 сакавіка нашы турысты—гандляры і польскія пакупнікі ўрачыста адзначылі першы працоўны дзень на новым рынку. Паток прадаўцоў і пакупнікоў не зменшыўся, а, паводле ацэнак відавочцаў, нават узрос. Магчыма, паспрыялі гэтаму чуткі пра новаўвядзенні ў польскіх мытных правілах — так званы "беставарны ўезд".

Б.Г.

# ЭТНАС, ДЗЯРЖАВА, КУЛЬТУРА

## Прыватныя меркаванні наконт іх суадноснасці

*Цяпер, калі мы, здаецца, канчаткова вырашылі: будуем самастойную дзяржаву, неадступна паўстае пытанне: а якую? Ёсць розныя прапановы, меркаванні, нават дзеянні, якія вызначаюць будучае аблічча незалежнай Беларусі. Але тут яшчэ ўсё далёка не вырашана. Прынамсі, з нацыянальнага пункту гледжання — якой быць беларускай дзяржаве, яе культуры, ідэалогіі? Друкуючы нататкі навукоўца з Берасця, рэдакцыя заклікае ўсіх зацікаўленых выказвацца, спрачацца ды не спяшацца з катэгарычнымі вывадамі.*

### I

Культура наогул носіць агульначалавечы характар. Гэта ўсё, да чаго былі прыкладзены рукі ці розум чалавека. І гэта адзіна магчымае асяроддзе існавання чалавека як віду. Спрошчана — тое ж, што і экалагічная ніша для жывёлін. Таму ўсё, што стварае пагрозу для культуры, — ёсць злачынства супраць чалавецтва.

Культура з'яўляецца сістэмай, якая сама сябе ўзнаўляе ў доўгім шэрагу пакаленняў розных груп людзей — яе носьбітаў. Таму яна можа існаваць толькі ў выглядзе вялікай колькасці этнічных альбо, як часцей кажуць, нацыянальных культур. Такая форма існавання — адзіная гарантыя захавання агульначалавечай культуры. Звядзенне апошняй да адной, нават самай перадавой, самай плённай і жыццяздольнай культуры, мела б такі ж вынік, як знішчэнне ўсіх сартоў бульбы, акрамя аднаго, хай і найлепшага. Гэты сорт бульбы проста выradзіўся б і ў рэшце рэшт бульба як расліна знікла б...

Калі які-небудзь этнас робіць спробу выкарчаваць культуру іншых народаў — гэта ўжо пэўны крок да яго самазабойства. Вельмі важна зразумець вынікі такога кроку асабліва тым, хто апіраецца на нацыянальныя рухі ў палітыцы...

Але і сама этнічная культура існуе толькі ў выглядзе мноства рэгіянальных сваіх праяў. Уніфікацыя нацыянальнай культуры — такое ж самазабойства, як і спроба уніфікацыі агульначалавечай культуры. Звычайна такі працэс адбываецца на базе якога-небудзь рэгіянальнага варыянта этнічнай культуры, што выклікае негатыўную рэакцыю з боку іншых рэгіёнаў. Гэта якраз і патрэбна ворагам нацыянальнага адраджэння. Адзіны шлях тут — клопаты аб развіцці ўсіх варыянтаў этнічнай культуры, аб адраджэнні і развіцці культуры іншых этнасаў, якія жывуць на дадзенай тэрыторыі.

І далей. Відавочна, што чым больш асоб маюць магчымасць уплываць на этнічную культуру, тым гэта мае для яе больш карысці. Немагчыма, аднак, шкодна і небяспечна, калі на ўжо сфарміраваную этнічную культуру атрымлівае выключны доступ уплыву адзін чалавек, суполка аднадумцаў альбо якая-небудзь плынь. Тое, што карысна і неабходна пры стварэнні этнічнай культуры ў працэсе этнагенезу, разбуральна для этнічнай культуры ўжо спелай. У чым пагроза? У тым, што этнічная культура можа выраdзіцца ў субкультуру эліты альбо касты. Прыкладаў у гісторыі колькі хочаш.

Не маю магчымасці зрабіць грунтоўны аналіз структуры этнічнай культуры. Адзначу толькі, што ідэалогія з'яўляецца элементам пакрыцця гэтай структуры, і ні ў якім разе яна не можа быць галоўным, структураstваральным элементам культуры. І сапраўды: беларус застаецца беларусам, якой бы ідэалогіі ён ні прытрымліваўся — каталіцкай, праваслаўнай, пратэстанцкай ці камуністычнай.

Іншая справа, што ідэалогія час ад часу аб'яўляецца асновай культуры, яе асноўным элементам. Гэта вядзе да нядбайных адносін да сапраўдных структураstваральных элементаў, што стварае смяротную пагрозу для этнічнай культуры. Такія захады вядуць да глыбокага і цяжкага крызісу культуры і ўсяго грамадства... Што і адбылося з беларусамі.

### II

Нацыянальную свядомасць, хто, шчыра памыляючыся, а хто, і свядома ідучы на падман, часта атаясамліваюць з нацыянальнай дзяржаўнай самастойнасцю. А між іншым, ці можа дзяржаўнасць быць нацыянальнай?

Зразумела, ёсць дзяржавы, у якіх пераважае які-небудзь адзін этнас. Але ці павінна ставіць дзяржава сваёй мэтай абарону этнасу ад уздзеяння іншых, забеспячэнне перавагі яго інтарэсаў перад іншымі? Відавочна, не. Такая спроба была, праўда, не ў чыстым выглядзе. Яна атрымала назву "фашызм".

Справа дзяржавы не вырашаць нацыянальныя пытанні, а ствараць умовы і забяспечваць ажыццяўленне правоў чалавека. І тое, што мы зараз называем нацыянальнымі праблемамі, міжэтнічнымі канфліктамі, на самай справе імі не з'яўляюцца. Гэта праблемы палітычныя і канфлікты не наконт правоў той ці іншай нацыі, а за валоданне маёмасцю і права размеркавання каштоўнасцей. Этнічная афарбоўка гэтых канфліктаў стала магчымай толькі ў выніку таго, што дзяржава прысвоіла сабе права вырашаць лёс этнасаў. І вырашала сродкамі, усім вядомымі з нядаўняй гісторыі. Тут і канчатковае вырашэнне яўрэйскага пытання Трэцім рэйхам у Германіі, нацыянальнага — у СССР; тут і Югаславія, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка... І зноў жа на дапамогу прыцягваецца ідэалогія — ці то фашысцкая, ці то камуністычная, ці рэлігійная, як гэта цалкам відавочна ў некаторых мусульманскіх краінах, і не зусім — у Ізраілі.

Я не магу ўявіць, што дзяржава ў ЗША, напрыклад, аб'явіла "англа-саксаў" вышэйшай расай і на гэтай падставе пачала вырашаць "нацыянальнае пытанне". Не менш недарэчным было б вырашэнне таго ж "пытання" на падставе класавага ці рэлігійнага падзелу. Але калі б так сталася, і прэзідэнт ЗША, кангрэс і сенат узяліся б вядомымі нам метадамі вырашаць этнічныя праблемы? Зусім відавочна, што гэта прывяло б толькі да дэзарганізацыі гаспадарчага і палітычнага механізма грамадства, выклікала б варожасць сярод розных суполак насельніцтва. Нельга нанесці большую шкоду грамадству, чым падкінуць дзяржаве ідэю вырашэння нацыянальнага пытання...

Дык што, у ЗША не існуе этнічных праблем? Чаму ж не?! Ёсць. І яшчэ якія праявы бываюць! Тут і сіянізм, і фашызм, і ку-клус-клан... Ёсць таксама рух індзейцаў, мексіканцаў, пуэртарыканцаў і г.д. Але гэта не справа дзяржавы. Яна больш ці менш паспяхова сочыць за тым, каб гэтыя арганізацыі і рухі не парушалі правоў чалавека, па меры сваіх магчымасцей прадухіляе тэрор і злачынствы, дбае аб выкананні законаў і, калі трэба, прымушае іх выконваць. Зразумела, забяспечыць на 100 працэнтаў гэта немагчыма, але ў той ступені, у якой гэта неабходна для стабільнай жыццядзейнасці грамадства, дзяржава ў ЗША свае функцыі пакуль што выконвае.

Не, я не пра наднацыянальную прыроду дзяржавы. Я толькі пра неэтнічны яе характар. Ні этнас не можа быць вышэй за дзяржаву, ні дзяржава — за этнас. Гэткія ж недарэчныя выказванні тыпу "этнічная дзяржава" і "дзяржаўны этнас". Такія "скрэшчванні" даюць у выніку тое ж, што і скрэшчванне вужа і вожыка — калючы дрот. А калі падключыць сюды яшчэ і ідэалогію, то атрымаецца калючы дрот пад напружаннем...

"Амерыканская нацыя" гэтаксама не з'яўляецца этнасам, як і "савецкі народ". Беларуская нацыя зноў жа — гэта не адно і тое ж, што беларускі этнас. Адзяржаўленне этнасаў і наданне дзяржаве этнічнага характару вядзе ў лепшым выпадку да заняпаду абодвух.

Наогул, усе праблемы сучаснасці ў большай ступені звязаны з ажыццяўленнем правоў чалавека. Гэта і ёсць тое галоўнае, што не зможа забяспечыць ні "ідэалагічная", ні "этнічная" дзяржаўнасць. Таму ў першую чаргу дзяржава павінна быць не ідэалагічнай і не этнічнай.

З аховы маёмасці, жыцця, гонару і чалавечай годнасці і павінна зыходзіць дзяржаўная ўлада. Нягледзячы на этнічную прыналежнасць. Нягледзячы на веравызнанне ці прыхільнасць да той ці іншай ідэалогіі. Не дапускаць, каб пад шыльдай якой-небудзь этнічнай групы ці грамадскай арганізацыі хавалася манаполія на ўласнасць і ўладу.

Калі Беларусі пашчасціць стварыць сваю дзяржаўнасць на прынцыпах абароны правоў чалавека, то гэта і будзе аптымальным вырашэннем пытання.

*Мы ўжо ступілі на шлях незалежнасці, і хацелася б, каб нам не давялося па ім дайсці да этнічнай самаізаляцыі і сваркі паміж субэтнасамі за першынство ў грамадстве. Хацелася б, каб на Беларусі жылося ўсім вольна і жыццё было ім даспадобы.*

**Сафроній Жлоба,**
**г.Берасць.**



# АНАТОМІЯ СМЕРЦІ

**Гэтыя нататкі ставяць перад сабой мэту папярэдзіць вас, шаноўныя чытачы. Папярэдзіць, а можа, нават і шакіраваць. Наша стагоддзе дае нам столькі магчымасцей раней, чым наканавана, адысці на той свет, што часам становіцца проста страшна. Страшна і балюча ад таго, што мы самі ствараем для гэтага ўсе ўмовы...**

## 1. Стагоддзе машын

Невялічкі экскурс у мінулае. Колькі стагоддзяў таму жанчыны рэдка маглі спаць спакойна: на кожным кроку іхняга мужыка, брата, бацьку падпільноўвала небяспека стаць нябожчыкам. Але небяспека гэтая ішла ад чалавека — дуэль, абрабаванне, вайсковыя дзеянні. Што ж цяпер? Цяпер галоўнай пагрозай для жыцця стаў не чалавек, з якім можна было дамовіцца альбо проста перамагчы ў бойцы, а — машына. Бязлітасная, бяздушная машына, якую сам чалавек стварыў сабе на дапамогу, і якая стала самым галоўным, самым жорсткім для яго ворагам. Калі падлічыць, колькі людзей загінула, стала ахвярай апаратаў, атрымаецца, што ні адно стыхійнае бедства, ніводнае сутыкненне не прынесла чалавецтву столькі страт. Часам вінаватыя самі людзі — халатнасць, безадказнасць, парушэнне правілаў карыстання машынай... Але хіба не часцей пагібель чакае невінаўных? Усё ж амаль заўсёды ў смерці аднаго чалавека вінаваты другі. Машына становіцца толькі выканаўцам...

Новенькі бліскучы "Жыгулёнак". Сімвал дабрабыту, сімвал матэрыяльнай забяспечанасці, сімвал прагрэсу. І — гара жалеза, шкла, гарэлай скуры і чалавечай плоці. Тое, што засталося ад машыны і таго, хто ёй кіраваў. Менавіта мірны аўтамабіль зараз самы небяспечны для жыцця чалавека агрэгат. Асабліва, калі за рулём вадзіцель, які ажыццяўляў злачынства: папросту кажучы, перад тым, як сесці за руль, выпіў шклянку-другую гарэлкі. Дык няўжо няма сілы, якая абароніць нас, якая спыніць п'янага, бо ён пагражае жыццю нашаму, твайму, дарагі чытач, жыццю тваёй маці, твайго сына?



## 2. Батальён

У рэйд, аб якім пойдзе гаворка ніжэй, нас паклікала цікавасць як да самога працэсу работы ДАІ, так і імкненне даведацца, ці сапраўды абароненыя мы ад п'яных вадзіцеляў. Спачатку — лічбы. Вось графік, які адлюстроўвае колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, якія з удзелам нецвярозых вадзіцеляў адбыліся па Мінскай вобласці за апошнія гады:




Красамоўныя лічбы! І амаль за кожным здарэннем — смерць, гора, безвыходнасць...

...Самі работнікі міліцыі з усмешкай пераказваюць чутку, што разнеслася сярод вадзіцеляў. Маўляў, у Мінскай вобласці з'явіўся батальён ДПС, які нікому, акрамя міністра, не падпарадкоўваецца, для якога затрымаць важную персону — і не толькі затрымаць, але і пакараць — не складае цяжкасцей, ды й з хабарам да інспектараў гэтага батальёна лепш не падыходзіць. Чутка чуткай, але менавіта батальён ДПС УУС Мінскага аблвыканкама два гады запар з'яўляецца лепшым сярод падраздзяленняў Дзяржаўтаінспекцыі Беларусі. Гэта значыць



— самая высокая колькасць затрыманняў, адсутнасць скаргаў на дзеянні інспектараў, ды і ўсе астатнія паказчыкі батальёна на высокім узроўні. Камандзір Валерый Міхайлавіч Трубнікаў праводзіць развод:"Вы менш глядзіце на заявы накшталт "Дэмакратыя, галоснасць". Дэмакратыя — гэта перш за ўсё падпарадкаванне закону. Звярніце ўвагу: зараз усе былыя рэспублікі СССР — замежныя краіны. І мы павінны прымусіць вадзіцеляў з іх падпарадкоўвацца законам Рэспублікі Беларусь, калі яны на нашай тэрыторыі. Нягледзячы на падаражанне спіртнога, колькасць нецвярозых вадзіцеляў павялічылася. Звярніце таксама ўвагу на вываз за межы рэспублікі недазволеных для вывазу грузаў. Будзьце пільнымі!"

Рэйд, у якім мы ўдзельнічалі, ставіў перад сабой адну мэту: выяўленне п'яных вадзіцеляў. Маршрут вызначаўся ў апошнюю хвіліну: каб не было ўцечкі інфармацыі.

## 3. Экіпаж

Звычайна рэйд праводзіцца некалькімі экіпажамі. Але за прыклад мы ўзялі адзін. Знаёмцеся: старшы сяржант Васіль Шаманскі і сяржант Сяргей Сінькевіч. Менавіта з гэтымі хлопцамі нам трэба усю ноч — з 5 гадзін вечара да 7 раніцы — уважліва назіраць за шпаркімі легкавушкамі, цяжкімі грузавікамі і падазронымі матацыклістамі. Па дарозе на Смалявічы хлопцы на жыццё не наракалі. Хутчэй крыўдавалі, што з усіх бакоў льецца бруд на міліцыю, падрываецца яе аўтарытэт. Вядома, трапляюць у органы МУС розныя людзі. Які аўтарытэт будзе ў таго міліцыянера, які ў неакуратным, зашмальцаваным мундзіры выходзіць на службу? Вядома, пачынаць трэба не з мундзіра, пачынаць трэба з закона, з вызначэння не толькі абавязкаў, але і правоў міліцыі, з матэрыяльнай базы органаў. Калі будзе ў супрацоўнікаў нармалёвы аклад, магчымасць добра правесці адпачынак, калі міліцэйскія машыны перастануць спыняцца пасярод дарогі з-за недахопу запчастак, тады будзе магчымасць больш уважліва падыходзіць да адбору асабовага складу (трэба адзначыць, што ў батальёне, аб якім ідзе размова, ужо існуе конкурсны адбор). Зараз сюды паступілі новыя машыны — "Жыгулі", пераважна 8-й мадэлі. Хлопцы задаволены: транспарт надзейны, хутка набірае абароты, за рулём не стамляешся. Але, напрыклад, на "васьмёрцы" таго самага дружынніка-аўтаінспектара ў рэйд не возьмеш: задніх дзвярэй няма, і калі ўзнікае неабходнасць імгненна пачаць праследаванне, губляюцца секунды, ад якіх вельмі шмат што залежыць. Тым больш, часам прыходзіцца рамантаваць тэхніку за свае грошы, прычым у бліжэйшыя гады новых машын не чакаецца. Свой жа рэсурс машына ДПС выпрацоўвае за некалькі месяцаў...

Пакуль ехалі ў Смалявічы, размова ішла лёгка, хлопцы настройваліся на працу. Але як толькі паказаліся першыя дамы, Васіль, які сядзеў за рулём, неяк раптам сабраўся, сканцэнтраваўся:"Усё, Сяргей, пачынаем".

## 4. П'яны раён

Сталі на скрыжаванні. Праінструктавалі: сачыце ўважліва, як хто не спыніцца — імгненна ў машыну, бо застанешся на дарозе. Гэтае "імгненна ў машыну" спатрэбілася ўжо праз некалькі хвілін. Белы "Жыгуль" ніяк не адрэагаваў на падняты жэзл.

Колькі ж пісалі аб пагоні! Але толькі пад час яе ўсведамляеш, што гэта такое — гонка па цёмных завулках, дзе немагчыма разгарнуцца, дзе секунду прамарудзіш — і шукай потым сляды машыны, за рулём якой, можа, сядзіць злачынца. Але фокус не ўдаўся, "Жыгулі" пад'язджаюць да асветленай крамы, спыняюцца, мы адразаем дарогу назад. Сумнявацца не прыходзілася: яўны пах перагару сцвярджаў, што вадзіцель — жыхар Азербайджана — прыняў добрую дозу... Адразу ж паявіліся сваякі затрыманага:



# АНАТОМІЯ СМЕРЦІ



брат — мясцовы кааператар, потым падышоў яшчэ адзін брат, старэйшы. За рулём, як аказалася, сядзеў самы малодшы з іх і ўвесь час скардзіўся: "Ой, якая ганьба! Мяне ж браты паб'юць!" Пачаліся просьбы разабрацца "па-мужчынску": гарэлку — у багажнік, грошы — у кішэню. Не тут то было! Паўтары гадзіны на нас з усіх бакоў сыпаліся прапановы, просьбы, потым — пагрозы. Калі пасля доўгіх размоў бакінец усё ж падзьмуў у трубачку і распісаўся ў пратаколе, нашы нервы былі на мяжы... Цікавыя людзі, цікавая псіхалогія: яны лепш згодныя даць хабар у тры, пяць тысяч, чым афіцыйна заплаціць штраф у 1 тысячу рублёў.

"Рыбалка" працягвалася. На тым жа самым скрыжаванні спыніўся "Масквіч". З пярэдніх дзвярэй выйшаў пажылы мужчына, інвалід. Ужо тады мы не маглі зразумець, як ён — практычна аднаногі, ды яшчэ і добра "паддаты" — мог кіраваць машынай. Уладальнік жа гэтай машыны сядзеў побач. Перасеўшы ў наш аўтамабіль, М.І.Шабасаў пратакол падпісваць не захацеў. Маўляў, пісаць не ўмею. Як жа так — непісьменны, а працуе начальнікам забеспячэння аднаго са смалявіцкіх прадпрыемстваў. Прыйшлося везці ў бальніцу на медыцынскі агляд. Там сустрэліся з другім экіпажам, які таксама прывёз парушальніка. Калі рэчыва ў прабірках стала адпаведнага колеру, былі складзены пратаколы. І вось тут ужо мы сустрэліся з кругавой парукай, якая пышна расквітнела на раёне: "Хлопцы, а можа не трэба нічога пісаць?"— доктар, які праводзіў агляд, быў настроены да сваіх землякоў-п'яніц міралюбна. Але пераадолеў "раённы сіндром", падпісаў медзаключэнне... Шаноўны, а калі б ваша дзіцё трапіла пад колы "п'янага аўтамабіля"? Як бы вы тады гаварылі?

...Матацыкл з каляскай далёка не з'ехаў. Да гэтага часу цяжка зразумець, як мог кіраваць ім хлопец Юра, які, калі злез з сядзення, гойдаўся, быццам ад ветру, а язык у яго заплятаўся так, што нічога немагчыма было разабраць у яго апраўданнях. Тым больш, што ніякіх дакументаў у вадзіцеля не было... Прыйшлося адвозіць гора-матацыкліста дахаты. І што б вы думалі — на той жа вуліцы, дзе ён жыў, стаяў, завісшы адным колам над канавай, той самы "Масквіч", якім раней кіраваў інвалід. Ён і цяпер быў тут, але за рулём лыпаў на нас вачыма ягоны сусед, якому гэта машына і належала. Аказалася, што пасля прыезду з бальніцы яны з Шабасавым вырашылі спачатку "дадаць", а потым загнаць машыну ў гараж. Адным словам, Міхаіл Іванавіч, як кажуць, ужо лыка не вязаў, ягоны сусед, на якога мы, крыху



ад'ехаўшы ўбок , пачалі складаць пратакол, прапаноўваючы нам выпіць, паесці, у дадатак — поршневую сістэму для "Масквіча", а машына пад той час хісталася над канавай. Пратакол склалі, паехалі назад... Смех, ды і толькі! Але не зусім. За тыя дзесяць хвілін, што пайшлі на складанне пратакола, М.І.Шабасаў паспеў забрацца ў машыну і канчаткова загнаць яе ў канаву. Прыгоды працягваліся.

Іншыя экіпажы таксама без работы не засталіся. Усяго ў Смалявічах літаральна за некалькі гадзін трыма экіпажамі было затрымана 9 п'яных вадзіцеляў. У чым жа прычына? Аказваецца, што тут ужо тры дні запар давалі гарэлку без талонаў і купонаў. Адным словам, за "драўляныя"...

## 5. Барысаў. Масленіца

Са Смалявічаў наш шлях лёг у напрамак Барысава. Менавіта ў гэты вечар там святкавалі Масленіцу, і таму былі прычыны для неспакою. Першыя некалькі гадзін дзяжурства прайшлі спакойна. Але потым, варта нам было праехаць па вулках Старога горада... Вы ўяўляеце сабе, што гэта такое — праследаваць "Фольксваген", калі ўласная міліцэйская машына, як кажуць, пад завязку забіта раней затрыманымі парушальнікамі?! Але ж — (што ні кажы — прафесіяналы служаць не толькі ў амерыканскай паліцыі) — дагналі. Хлопцы ў "Фольксвагене" былі цвярозыя, але дакументаў не было ніякіх. Проста "вячэрняя прагулка з дзяўчатамі"...

...У тыя хвіліны, калі іншаземная машына з вясёлай кампаніяй беспаспяхова



імкнулася адарвацца ад пагоні, у некалькіх кварталах ад нас другі экіпаж таксама праследаваў аўтамабіль, толькі ўжо айчыннай маркі. Пасля сустрэчы з ліхтарным слупом яго ўладальнік таямніча знік, пакінуўшы разбітую машыну на волю лёсу...

... Стаялі мы недалёка ад невялічкага рэстарана. Машын там паркавалася шмат, а іхнія гаспадары, відавочна, не жадалі садзіцца за руль у прысутнасці супрацоўнікаў ДАІ. Раптам — на вялікай хуткасці праносіцца "Жыгуль" жоўтага колеру. Мы — за ім. Не дагналі. Схаваўся. А як вярнуліся назад— ніводнай машыны ля рэстарана, ніводнага чалавека, нібы тайфун пранёсся. Вось вам і падставы для роздуму. Адцягнулі ўвагу — ды раз'ехаліся. Большасць з гулякаў усё ж затрымалі іншыя экіпажы... Але вернемся ў Стары горад. Едзе сабе невялічкі трактарок. Яго ўладальнік — Г.Л.Чычэрын — "піў кампот, ліманад, кефір". Відаць, нясвежыя. Бо агляд у бальніцы паказаў сярэднюю ступень ап'янення. І яшчэ адзін вадзіцель "выпраменьваў" яўна не малочны пах. Вось гэтыя парушальнікі якраз і знаходзіліся ў машыне ДАІ, калі "Фольксваген" не спыніўся па патрабаванню інспектара Шаманскага. Анекдот, ды і толькі — пасля заканчэння пагоні абодва затрыманыя ўжо адчувалі сябе членамі экіпажа. Фермер Чычэрын: "Памятаеце, як МЫ бралі гэтых..." Не піце за рулём, Генадзь Львовіч!...

## 6. ХАБАР

Балючая тэма, вельма балючая. Некаторыя так і думаюць, што супрацоўнікі ДАІ грошы на асфальце знаходзяць. Бачыце, зноў псіхалогія: па некаторых мяркуюць аб усіх. Па-першае, зараз не тыя часы, каб гэтае так лёгка сыходзіла з рук. Наша міліцыя, на якую ўжо вылілі мора бруду, нарэшце пачынае разумець сваю ролю ў грамадстве. Вядома, так адразу кадры не заменіш. Але давайце падумаем: каму ў наш час выгадна ганьбіць ахоўнікаў правапарадку? Тым, хто гэты правапарадак парушае. У кожным выпадку злоўжывання з боку супрацоўнікаў міліцыі трэба разбірацца канкрэтна, а не ганьбіць усе органы ўнутраных спраў. Падумаем, колькі магчымых смярцей прадухілілі супрацоўнікі ДАІ пад час нават аднаго гэтага рэйду...

Колькасць нецвярозых вадзіцеляў, затрыманых ДАІ Мінскай вобласці

| 1987 | 1988 | 1989 | 1990 | 1991 |
|---|---|---|---|---|
| 10.535 | 10.263 | 10.755 | 12.170 | 14.527 |

за 2 мес. 1992 г. – 1936
(за 2 мес.1991 г. –1728)

## 7. АПОШНІ СЛУП

Не ўсё, што хацелася, мы змаглі ўмясціць у гэты матэрыял. Можна было ўзгадаць і аб псіхалогіі парушальнікаў, і аб тым, як у абсалютна невіноўнага чалавека пачынаюць трэсціся рукі, як толькі ён убачыць супрацоўніка міліцыі. Гэта таксама хібы мінулага...

...Пасярод начной, крыху асветленай вуліцы стаяць хлопец з дзяўчынай. Заплюшчылі вочы, ні на што знешняе не рэагуюць — цалуюцца. На заўвагу інспектара: "Вы б іншае месца знайшлі, ці што..." Адказ: "Дзе хочам, там і стаім". Цвярозы вадзіцель, вядома, заўважыў бы дзве постаці, якія ў іншым месцы выклікалі б толькі замілаванне. Але менавіта на гэтай вуліцы экіпажамі ДПС было выяўлена некалькі п'яных вадзіцеляў...

Мы вырашылі змясціць на нашых старонках як мага больш здымкаў, якія лепш за словы могуць распавесці пра тое, што можа напаткаць кожнага з нас. Угледзьцеся! І больш ніколі не кіруйце сваімі машынамі ў п'яным выглядзе.

**Алесь Палынскі,**
**рэдактар аддзела інфармацыі "ЧЗ".**

**Сяргей Шостак,**
супрацоўнік ДАІ УУС Мінгарвыканкама.






## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 7, 8, 9, 10, 11)

Напачатку ў паўстанні на Беларусі прыняла ўдзел і частка сялян. Часовы ўрад Літвы і Беларусі, у якім галоўную ролю іграў К.Каліноўскі, ставіў на мэце масавае народнае паўстанне, вёў сярод сялян актыўную прапаганду ідэй вызваленчай барацьбы. Аднак падняць палітычна нясмелыя сялянскія масы на арганізаваную ўзброеную барацьбу супраць царызму кіраўнікам паўстання не ўдалося.

Атрады, якімі кіравау паплечнік К.Каліноўскага В.Урублеўскі, вялі паспяховыя баі з царскімі войскамі. Дзякуючы дзейнасці К. Каліноўскага і В. Урублеўскага ў Гродзенскай губерні, апошняя стала цэнтрам паўстанцкага руху на Беларусі. У Мінскай губерні змагаліся атрады пад кіраўніцтвам С.Ляскоўскага і А.Трусава. Паспяхова дзейнічаў на Брэстчыне атрад Р.Траўгута.

Аднак малалікасць паўстанцкіх атрадаў, а таксама слабае ўзбраенне прывялі да таго, што яны пачалі цярпець паражэнне ад царскіх войск. Як пісаў адзін з кіраўнікоў паўстання на Беларусі, *"даных аб іх колькасці* не было зусім ці яны былі, але няпоўныя, узбраенне было самае дрэннае, многія кіраўнікі атрадаў не былі вядомы, дзейнічалі паасобку". Атрад пад кіраўніцтвам Л.Звяждоўскага быў разбіты пры спробе прабіцца з Магілёўскай губерні ў Смаленскую.

У канцы 1863 г. паўстанцкія атрады на Беларусі атрымалі шмат зброі ад кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы. Кіраўнікі паўстання на Беларусі вырашылі таксама змяніць тактыку ўзброенай барацьбы. Яны зразумелі, што партызанскія атрады не могуць эфектыўна змагацца супраць рэгулярнай урадавай арміі ў адкрытым баі, бо першыя значна ўступалі ў зброі і ваеннай падрыхтоўцы. Рэкамендавалася дзейнічаць невялікімі групамі. Аднак сілы былі няроўныя і ў пачатку 1863 г. паўстанне на Беларусі было ў асноўным задушана, яго ўдзельнікі пакараны смерцю ці сасланы ў Сібір.

Цяпер Расейская імперыя стала адкрыта сцвярджаць, што Беларусь — "искони русские земли", што тут жывуць чыста "русские". Усё, што было непадобнае на маскоўскае ці велікарускае, нішчылася і праследавалася. Пад забарону трапілі нават кнігі на беларускай мове.

I ўсё ж на пачатку XX стагоддзя, калі Расейская імперыя затрашчала ад нацыянальных і рэвалюцыйных рухаў, знясіленая Беларусь здолела паўстаць на вызваленчую барацьбу і распачаць уласнае дзяржаўнае будаўніцтва.

### IX

Ужо напачатку XX стагоддзя ў колах патрыятычна настроенай інтэлігенцыі Паўночна-Заходняга краю, якая гуртавалася вакол рэдакцый газет "Наша доля" і "Наша ніва", а таксама ў першых беларускіх палітычных арганізацыях — Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе і Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе выспявалі ідэі нацыянальнага адраджэння, у тым ліку беларускай вайсковасці.

Рэалізоўвацца яны пачалі пад час Першай сусветнай вайны, калі галоўная апора беларускага руху, нацыянальна свядомая моладзь, аказалася пад ружжом. У траўні 1917 года была створана першая Вайсковая Беларуская Арганізацыя. 18—24 кастрычніка ў Менску праходзіць З'езд беларусаў-вайскоўцаў. Ён абраў Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду на чале з Сымонам Рак-Міхайлоўскім. Ствараецца *штаб* беларускага войска пад кіраўніцтвам генерала Кандратовіча. Галоўная задача — абарона роднай зямлі і правоў беларускага народа на самавызначэнне. Усюды — на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі — фарміруюцца беларускія аддзелы (атрады), палкі, дывізіі і нават карпусы (на Румынскім фронце). Фактычна супыняе гэты працэс прыход да ўлады бальшавікоў і разгон імі І-га Усебеларускага Кангрэса (снежань, 1917 года) — першай спробы утварэння беларускай дзяржаўнасці новага часу.

25 сакавіка 1918 года абвяшчаецца Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). У складзе яе урада арганізуецца сакратарства (міністэрства) па вайсковых справах, якое ўзначальвае Кастусь Езавітаў.

Ва ўмовах акупацыі спачатку немцамі, потым палякамі, гандлю тэрыторыяй Беларусі расейскім Саветам Народных Камісараў стварыць сапраўднае беларускае войска не ўдалося. Але ў вайсковую гісторыю нашай Бацькаўшчыны назаўсёды ўвайшлі 1-ы Менскі беларускі пяхотны полк (1917), Беларускі каравульны батальён і Беларуская дывізія ў Адэсе (1918), 1-ы Гарадзенскі Беларускі полк (1919).

За нацыянальную незалежнасць мужна змагаліся "Асобны атрад" БНР" і 20-тысячнае Беларускае войска пад камандаваннем генерал-маёра Станіслава Булак-Балаховіча, які спрабаваў утварыць Беларускую дзяржаву на Палессі (1920), 10 тысяч жаўнераў Слуцкай брыгады і аддзелаў падпольнай арганізацыі "Зялёны дуб" (Слуцкае паўстанне, 1920) і сяляне з аддзела "Белая світка" (Вяліжскае паўстанне, 1934).

Напачатку 20-х гадоў узброеную барацьбу супраць палякаў вялі ў Заходняй Беларусі партызаны. Дзейнічаў Галоўны Штаб Беларускіх Партызан, а затым Беларускі Стралецкі Саюз.

Беларускія вайсковыя фарміраванні існавалі нейкі час і ў рэгулярных арміях Польшчы, Літвы, Латвіі. (Цікава, што, напрыклад, 10 працэнтаў афіцэраў Літоўскага Генеральнага Штаба валодалі беларускай мовай).

Беларускія вайскоўцы актыўна выкарыстоўвалі нацыянальную сімволіку: бел-чырвона-белыя штандары, герб "Пагоня"; мелі адметнае абмундзіраванне; бэнээраўскай узнагародаю быў ордэнскі шасціканцовы "Беларускі крыж святой Ефрасінні Полацкай".

Чырвоная Армія. Першы беларускі аддзел Чырвонай арміі быў створаны Беларускім нацыянальным камісарыятам у сакавіку 1918 года з 50 беларусаў-петраградцаў. Тры месяцы ў 1919 годзе існавала чырвоная Беларуска-Літоўская армія. Усяго ў гады грамадзянскай вайны праз Чырвоную Армію прайшло каля 300 тыс. беларусаў.

У 1923-25 гадах Чырвоная Армія пераводзіцца на змешана-кадравы і тэрытарыяльны (міліцыйны) прынцып фарміравання. Вайсковая рэформа супала з палітыкай беларусізацыі, якая праводзілася тады ў БССР. У дачыненні да вайсковых часцей гэта азначала замену кадравага складу беларусамі і пераход на беларускую мову навучання, каманд і зносін. Першымі нацыянальнымі фарміраваннямі сталі 2-я Беларуская тэрытарыяльная дывізія (1923) і 16-ы Беларускі стралковы корпус.

Камандны склад для беларускіх часцей рыхтавала Аб'яднаная Беларуская, Вайсковая Школа імя ЦВК БССР. Пад кіраўніцтвам Вайсковай камісіі пры Інстытуце Беларускай Культуры распрацоўвалася беларуская вайсковая тэрміналогія (не шмат людзей ведае нават сёння, што азначае, напрыклад, гэткая беларуская каманда: "Шыхт зважай! Крокам руш!"), рыхтаваліся на беларускай мове вайсковыя слоўнікі, спеўнікі, дапаможнікі, статуты. Выдавецтвы, найперш Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва Беларусі, штогод выдавалі дзесяткі назваў беларускамоўнай спецыяльнай вайсковай літаратуры. На беларускай мове выходзілі акруговая газета "Чырвонаармейская праўда", шэраг дывізіённых і палкавых газет.

Беларусізацыя войска не азначала абмежавання правоў іншых нацый. Бо, напрыклад, у Гомелі быў створаны габрайскі (яўрэйскі) тэрытарыяльны полк Чырвонай Арміі, адпаведныя батальёны існавалі ў Менску і Смаленску. Да таго ж нацыянальнай мусіла быць толькі частка войска.

На жаль, да 1938 года нацыянальныя часткі былі паступова ліквідаваны. Прычына тут адна — яны пачалі перашкаджаць сталінскай палітыцы ствараць унітарна-таталітарную дзяржаву шляхам генацыду ў адносінах да асобных нацыянальных культур і народаў.

У час Другой сусветнай вайны беларускіх нацыянальных часцей у Чырвонай Арміі не было, хоць шмат мужных беларусаў-вайскоўцаў загінула ў барацьбе супраць фашысцкай навалы. Шырокі размах меў партызанскі рух, які быў сапраўды народным, бо ў ім удзельнічалі каля 400 тыс. беларускіх патрыётаў. (Нездарма вопыт партызан Беларусі спецыяльна вывучалі ў 80-х гадах афганскія маджахеды).

Асобная гаворка мае быць пра калабарацыянісцкую Беларускую Краёвую Абарону (БКА) — вайсковую арганізацыю, згоду на стварэнне якой гітлераўцы далі толькі ў 1944 годзе. Налічвала яна каля 100 тыс. чалавек ці 100 батальёнаў (немцы ўзброілі невялікую частку іх). Былі сярод жаўнераў БКА злачынцы, на руках якіх кроў нашых людзей, былі проста запалоханыя. Але значна болей было там такіх беларусаў, хто бачыў ворага і ў сталінскім камунізме, і ў гітлераўскім фашызме ды хацеў аднаго — шчаслівага лёсу сваёй Бацькаўшчыне. Менавіта яны крыху раней таемна арганізавалі Беларускую незалежную партыю, якая ставіла мэтай адрадзіць вольную і моцную Беларускую дзяржаву.

Скончылася вайна. На эміграцыі беларускую вайсковую чыннасць падтрымліваюць Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў (Канада), Беларускі Вызвольны Фронт (Аўстралія), іншыя беларускія згуртаванні. Выдаецца беларуская вайсковая перыёдыка (газета "Зважай", часопіс "Баявая Ускалось") і да т.п.

У Савецкай Беларусі доўга не было амаль нічога. Праўда, у тэксце Канстытуцыі прысутнічаў артыкул 16-б, што БССР "мае свае рэспубліканскія вайсковыя фарміраванні". Але гэта была голая дэкларацыя, абумоўленая членствам рэспублікі ў ААН. З апошняй рэдакцыі Канстытуцыі БССР знік і сам артыкул.

I ўсё ж той, хто служыў у Савецкай Арміі, ведае, як цанілі там менавіта прызыўнікоў-беларусаў. Мноства здольных і таленавітых у вайсковай справе беларусаў ёсць сярод афіцэрскага корпуса. Беларусы-афганцы — яшчэ адна трагічная і адначасова гераічная старонка нашай гісторыі.

Паступова адраджаўся і беларускі нацыянальны вайсковы дух. У 1989 годзе ўзнікла першая суполка беларусаў-вайскоўцаў у далёкім Прыазёрску (Казахстан), потым — у Цвеpы, Маскве, Мінску, Барысаве, Якуціі, на Далёкім Усходзе. 19—20 жніўня пад час путчу ГКЧП утваралася Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ), пачала арганізоўвацца Нацыянальная гвардыя. 12—13 кастрычніка ў Мінску прайшоў I-ы З'езд БЗВ. А на пачатку 1992 года з'явілася доўгачаканае Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

Спраўджваюцца, нарэшце, прадказанне Янкі Купалы: "Войска беларускае павінна быць, і яно будзе"; заклік Максіма Багдановіча:

"Досі ўжо браты чужынцам мы служылі,
Досі ўжо пашаны ім прыдбалі;
Не сваю – чужую долю баранілі,
Пад чужымі сцягамі ўміралі".

Зноў актуальна гучыць і адозва Беларускай Вайсковай Камісіі (1920): "Беларусы! Хто хоча незалежнасці нашае Бацькаўшчыны! У кім бьецца беларускае сэрца, каму неўмагату зьдек чужынцаў, хто можа трымаць у руках стрэльбу, запісвайцеся ў Беларускае войска!"

*Паэтычны фельетон*

## НАЧНЫ ГАНДАЛЬ

**СУЧАСНАЯ БЫЛЬ**

Да Костуся прыехаў госць здалёку
(Служылі разам некалі на флоце,
Пасля пісалі пісьмы пры ахвоце)...
Хаця начны, але жаданы госць,
Сябрам напіцца хочацца да клёку,
Успомніць Севастопаль, маладосць.

Прузына цягне ўжо на стол прысмакі,
Міргае мужу: даставай гарэлку.
Кастусь узмок, бо тут ён плаваў мелка:
Была бутэлька – ўчора апрастаў
З якімсьці трактарыстам-небаракам,
А ўзамен, як бачым, не дастаў.

Канфуз вышэй, чым мышы на лінкоры.
Прузына спешна выручае мужа,
Хоць і яе ўжо ліхаманка стружа,
Дае паўсотні: "Знаеш, Халімон
І сярод ночы выручыць у горы:
Ён прадае паціху самагон..."

Пабег Кастусь з пустою паўлітэркай,
У шыбу бразнуў з велькай нецярпячкі –
У Халімона ўміг прапала спячка:
Відаць, прывык к начным візітам ён.
Адкрыў бітон, грыміць жалезнай меркай
І хваліць, хваліць: моцны самагон.

Кастусь камечыць грашакі Прузыны,
Але рука застыла ў Халімона:
"Яно ўсё так, а дзе, браток, купоны?
Тут не шынок, тым болей – не прытон,
Усё як у звычайным магазіне.
Цягні купоны!"– лязгнуў Халімон.

Пабег. Прынёс. Зашчоўкалі нажніцы.
Вось і тавар у Костуся ў кішэні,
Купоны й грошы ў Халімона ў жмені.
У думках Кастусь загарнуў праклён,
Жаданне знікла з сябруком напіцца,
Бо шкурай аказаўся Халімон.

О час настаў! За пляшку самагону
Пранырьі патрабуюць і купоны.
Парламент і Шушкевіч выдаюць законы,
А светам правяць прахіндзеі-халімоны.

**Уладзімір Верамейчык.**

*P.S. Прачытаўшы сучасную быль Уладзіміра Верамейчыка, "Гарчычнік" тэрмінова звязаўся з аўтарам па тэлефоне:*

*— Уладзімір Міхайлавіч, няўжо?*

*— Так,— адказаў паэт-сатырык,— на Гомельшчыне без купонаў цяпер самагонкай не "частуюць".*

*Вось які цікавы працяг у Беларускай глыбінцы набываюць рэформы, народжаныя ў сталічных кабінеціках! Гэта вам не фунт разынак, а разынак фунт!*

## Конкурс "Юны дух — варты старых двух" заканчваецца

*Добры дзень, паважаныя калегі! Піша вам пастаянны чытач "Чырвонай змены", ваенны журналіст В.Чарапкоўскі. Дасылаю на конкурс "Юны дух — варты старых двух" некаторыя выказванні дзяцей, якія я запісаў у апошні час. Магчыма, штосьці вас зацікавіць.*

* * *

Бацька шасцігадовай Наташы збіраецца ў камандзіроўку. Склаўшы чамадан, гаворыць:

— Ну, малышка, не сумуй, я паехаў у камандзіроўку.

— Тата, а дзе жыве твая камандзіроўка?

* * *

Цяжарная сяброўка мамы Андрэя часта заходзіла да яе ў госці. Убачыўшы яе пасля родаў, сын кажа:

— Мама, цяпер я дакладна ведаю, што дзеці сядзяць у жываце. Але як яны туды трапляюць?

* * *

У дзіцячым садку выхавальніца гаворыць дзіцяці:

— Дзімачка, скажы маме, каб яна дала табе лекі ад прастуды.

Пачухаўшы за вухам і шморгнуўшы носам, хлопчык адказаў:

— А тата гаворыць: трэба гарэлкі выпіць і — усё пройдзе.

* * *

Выхавальніца знаёміць дзяцей з прафесіямі.

— Што робіць повар? — задае яна дзецям пытанне.

— Есці гатуе, — адказваюць дзеці.

— Што робіць урач?

— Людзей лечыць.

— Што робіць няня?

— Прыбірае, з намі гуляе.

— Што робіць выхавальніца?

— Есць і карае.

* * *

Убачыўшы ў вёсцы, як бабуля доіць карову, пяцігадовы Саша гаворыць:

— Мама, паглядзі: у му-му чатыры пісі.

* * *

Маці на кухні гатуе вячэру. Да яе падышла шасцігадовая Ніка і гаворыць:

— Мама, я замуж не пайду.

— Чаму? — здзівілася маці.

— А што калі мне трапіцца такі муж, як наш тата: ляжыць на канапе ды газеты чытае.

* * *

Вучаніца трэцяга класа Вераніка перакладае з рускай мовы на беларускую словазлучэнне "падышоў аўтобус" наступным чынам: "падкрокнуў аўтобус".

*Слава Атрошчанка, 4 гады. г. Васілевічы Гомельскай вобл.*

* * *

Выходзячы ад зубнога ўрача:

— Мама, у мяне новы зубок вырасце?

— Вырасце, гэта ж быў малочны...

— Малочны? Гэта таму, што я больш малака п'ю?..

* * *

У дзіцячым садку на Новы год. Дзед Мароз пытаецца ў дзяцей:

— Чаму маю ўнучку клічуць Снягуркай?

Славік падымае руку:

— Таму што яна любіць катацца на каньках-снягурках.

* * *

За сталом маці робіць заўвагу сыну:

— Славік, калі будзеш дрэнна есці — не вырасцеш...

— Мама, чаму ты ростам меншая за тату? Таксама дрэнна ела?..

**Гутаркі дзяцей пачуў і запісаў Васіль Чарапкоўскі.**

## Для вас малюе В. Саковіч











## Кінаафіша

### "Пяць выкрадзеных манахаў"



Так называецца новы камедыйны дэтэктыў, пастаўлены рэжысёрам Ісаакам Магітонам на Маскоўскай кінастудыі імя М.Горкага па матывах аповесці выдатнага дзіцячага пісьменніка Юрыя Каваля.

У хлопчыка, якога ўсе ў горадзе Карманаве ведаюць пад імем Крэндзель, невядомыя злачынцы выкралі пяць пародзістых галубоў-"манахаў". Крэндзель разам з сябрам Лапатухіным у пошуках злодзея выходзіць на банду злачынцы Кожанага, якога адшукваюць праваахоўныя органы па падазрэнню ў абрабаванні гаспадарчага магазіна. Аб'яднаўшы свае намаганні, юныя сышчыкі і міліцыя абясшкоджваюць банду Кожанага і адшукваюць выкрадзеных галубоў.

Галоўныя ролі выконваюць Дзіма Масолаў, Мікіта Сіманоўскі, Дзіма Брыль, Вадзім Аляксандраў, Георгій Міляр, Тацяна Агафонава.

### "Вера"

Гэтую каляровую шырокаэкранную мастацкую кінастужку знялі індыйскія кінематаграфісты. Аўтар сцэнарыя — Вінай Шукла, рэжысёр-пастаноўшчык — Мікуль Ананд.

Фільм створаны ў традыцыйным для індыйскага кіно жанры меладрамы, але з элементамі дэтэктыва. Неха, дачка гаспадара кампаніі па вытворчасці спартыўнага інвентару, уступіла ў шлюб з нейкім Джайдыпам — як аказалася, разважлівым эгаістам, які жадаў прыбраць да рук багацце жонкі. Ён усяляк падштурхоўвае Неху да самагубства, ажыццяўляючы свой жорсткі і каварны план. Але ў жыцці маладой жанчыны зноў з'яўляецца Сагар — яе першае каханне...

Галоўныя ролі ў фільме выканалі папулярныя акцёры Індыі Радж Бабар, Дзімпл Кападзія, Дэні Дэнзонгпа, Сурэш Аберой і іншыя.

### "Гонар сям'і Прыцы"



Фільм каляровы, двухсерыйны. Ён зняты кінематаграфістамі ЗША па аднайменнаму раману Рычарда Кандона. Рэжысёр-пастаноўшчык — Джон Х'юстан.

...На хрэсьбінах чарговага атожылка сям'і другога хроснага бацькі сіцылійскай мафіі дона Карада Прыцы Чарлі заўважае незнаёмку — ашаламляльную бландзінку. Толькі паспеў зразумець, што ён ёй таксама спадабаўся, як дзяўчына знікла, нібыта Золушка... Потым ён будзе лётаць на самалёце да яе на спатканні, яна да яго — з іншага штата прыязджаць на машыне. Вось яны ўжо адзін без аднаго не ўяўляюць жыцця. Тут Чарлі і высвятляе, што гэтая прыгажуня, Айрын Уокер, якую ён гатовы назваць сваёй жонкай,— яго калега па прафесіі. Яна — наёмны забойца, спецыяліст высокага класа, міжнароднага. Адбываецца непрадбачанае...

Запамінальныя вобразы ствараюць у карціне Джэк Нікалсан, Кэтлін Тэрнер, Роберт Лоджыо, Джон Рэндолф.

## Тэлетайпная стужка "Гарчычніка"

### Жыве спартыўная ўлада!

Як нам паведаміў уласны карэспандэнт БелГарчІнфа В. Навіцкі, у Асіповіцкім гарвыканкаме талоны на віно, гарэлку і тытунь да нядаўняга часу выдалі толькі тамтэйшым спартсменам.

Для таго, каб атрымаць свае 84 талоны (па 16 на месяц) асіповіцкі абывацель павінен спачатку ўступіць у адну са спартыўных секцый горада, затым выканаць у адпаведнай дысцыпліне норматыў 3-га юнацкага разраду і толькі пасля ўсіх гэтых гуманітарных працэдураў ён набудзе права на атрыманне вінагартытуньталонаў.

На законнае пытанне нашых чытачоў (Навошта такія манеўры?) наш уласны карэспандэнт адказвае:

— Уся справа ў тым, што гарсаветаўская пячатка адпраўлена ў Мінск на перавыробку, і таму чыноўнікі пакуль карыстаюцца штампам камітэта па фізічнай культуры і спорту.

### Словы "студэнт" і "зэк" пачынаюцца з адной літары

Японскі бізнесмен Ю-Ту, які днямі наведаў студэнцкія сталоўкі БПА і БДУ, быў прыемна здзіўлены адной агульнай акалічнасцю: студэнты, распілоўваючы смажонку, выкарыстоўвалі дзве лыжкі замест нажа і відэльца.

— О!— выгукнуў спадар Ю-Ту-134 — зноў гэтыя знакамітыя славянскія авангардысты вынайшлі новы сродак эпатажу! Я распавяду сваім сябрам, і праз месяц уся Японія кіне палачкі і будзе есці рыс дзвюма лыжкамі!

Расхваляваная такім кампліментам Валерыя Жукаедава, загадчыца студэнцкай міні-кавярні "Бамбіза", уручыла госцю набор "люмінявых" лыжак з памятным надпісам на іх: "Пі суп! Грунвальд, 1410 год".

Цікава, а якімі сталовымі прыборамі карыстаюцца японскія "зэкі"?

### Удакладненне

Нашы ўласныя карэспандэнты ды ўласныя чытачы, якія тэлефануюць у аддзел плётак "Гарчычніка", пытаюцца: гэта праўда, што па панядзелках у былой актавай зале Дома друку працуе лясатачыльня і што аплата па дамоўленасці?

Не, адказваем мы. На жаль, інфармацыя была дадзена зусім не дакладная. На самай справе тут працуе музычны інструмент малога, але сумеснага прадпрыемства "Сінтэз". Ужо чацвёрты тыдзень запар сінтэзаўскі сінтэзатар гуку іграе для журналістаў "ЧЗ" і літкансультантаў "Маладосці" адну й тую ж Першую дэбільную сімфонію для піларамы, сталяра і ганарара без глузду. Опус 13.

Канцэрты бясплатныя. Запрашаем наведаць канцэртную залу ўсіх, хто яшчэ не калоціцца, не дрыжыць і не мае нервовага ціку.

**Падказны сакратар "Гарчычніка".**

Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 19 050.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 12.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12